# АДАМ МІЦКЕВІЧ

## «ЗЯМЛЯ НАВАГРУДСКАЯ,
## КРАЮ МОЙ РОДНЫ...»

ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»
МІНСК 1969

# ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

«Зямля навагрудская, краю мой родны...» Гэтым усхваляваным радком пачынаецца адзін з самых ранніх твораў Адама Міцкевіча. Потым тая ж усхваляванасць з новай сілай прагучыць у баладах і санетах, у сусветна вядомых паэмах «Дзяды» і «Пан Тадэвуш». Праз усё жыццё пранёс геніяльны польскі паэт узвышанае і пяшчотнае пачуццё любві да беларускай зямлі, на якой ён нарадзіўся 170 год назад, 24 снежня 1798 года. Тут, на Навагрудчыне, сярод маляўнічых узгоркаў, прайшло дзяцінства і юнацтва паэта. Тут ён разам са сваім сябрам Чачотам хадзіў па сялянскіх кірмашах, прагна прыслухоўваўся да беларускіх народных песень і казак. Тут спазнаў першае каханне да Марылі Верашчака, якая натхніла Міцкевіча на лепшыя лірычныя вершы. Пасля, у выгнанні, светлы і летуценны вобраз Марылі будзе ва ўяўленні паэта зліваецца і асацыіравацца з вобразам «роднай Літвы», як па тагачаснай звычцы называлі не толькі Літву, але і ўсю заходнюю частку Беларусі. Да самай смерці, якая наступіла ў Канстанцінопалі 26 лістапада 1855 года, Міцкевіч імкнуўся ў «айчыну сваёй думкі», да беларускіх палёў і лясоў.

У адрозненне ад «Выбраных твораў» Міцкевіча,

выдадзеных на беларускай мове ў 1955 годзе, у зборнік «Зямля навагрудская, краю мой родны...» уключаны толькі тыя творы паэта, якія маюць большае або меншае дачыненне да Беларусі. Гэта — раннія, філаматкія вершы, гістарычныя паэмы «Мешка» і (ва ўрыўку) «Гражына», прысвечаныя мінуламу Навагрудка. Гэта — балады і раманcы, якія ўзніклі пад уплывам народных легенд і паданняў. З рамантычных балад і «Дзядаў», з міцкевічаўскага заклiку «Мей сэрца і глядзі ў сэрца!» пачаўся адзін з найвялікшых пераваротаў у польскай літаратуры. І дзякуючы гэтаму перавароту ў літаратуру, па сутнасці, упершыню, прыйшоў беларускі селянін з яго багатым духоўным светам, з яго паэтычнай фантазіяй. У асобныя раздзелы вылучаны лепшыя вершы і санеты, звернутыя да Марылі Верашчака, а таксама творы, напісаныя ў царскай ссылцы і эміграцыі. Урэшце, у зборнік уключаны ўрыўкі з эпапеі «Пан Тадэвуш». Кожны з іх — гэта ўзнёслы гімн «навагрудскім прасторам», беларускай прыродзе.

Многія з твораў, прадстаўленых у зборніку, перакладзены на беларускую мову ўпершыню. Унутры раздзелаў у выпадках, калі гэта не парушае аўтарскай волі Міцкевіча, творы даюцца ў храналагічным парадку.

*Адам Мальдзіс*

NIEMNIE, DOMOWA RZEKO MOJA!
GDZIE SĄ WODY,
KTÓRE NIEGDYŚ CZERPAŁEM
W NIEMOWLĘCE DŁONIE...

# МЕШКА, КНЯЗЬ НАВАГРУДКА

*(Наследаванне Вальтэру)*

Nec minimum... decus... vestigia...
...deserere et celebrare domestica facta.
Hor(atius) Ad Pis(ones), V. 286 [1].

Яшчэ пан-бог святла
ў бясконцых круглых падарожжах
Паказвае зямлі далёкі твар прыгожы,
Чало Панар [2] з-пад снегу ледзь адходзіць,
І лукі не асохлі з-пад разводдзя,
З Каўказскіх гор азійскіх лёд не тане, —
Ля комінку нам час прысесці, дзеці;
Загадкі вам сказаць або паданні,
Каб час хутчэй і весялей пралецеў.

Ў Літве калісь,
як сведчыць жмойскі нам храніста [3],
На Трокскім і на Навагрудскім тронах
Сядзеў князь Мешка, тупа-ганарысты
І ўсімі абсмяяны, як варона.
Два фаварыты й спавядальнік тлусты,

---

[1] Неабмежаваную славу заслужылі тыя, хто асмеліўся пакінуць пратораныя сцежкі грэкаў і ўспяваць справы сваёй Айчыны.
Гарацый. Да пісонаў, V, 286.

[2] Ланцуг узгоркаў ля Вільні.

[3] *Мацей Стрыйкоўскі,* аўтар «Хронікі польскай, літоўскай, жмойскай і ўсёй Русі» (1582).

Сумлення вартаўнік і сябра па распусце,
Лісліваснцю бясконцаю, пралазы,
Забралі ў рукі край,
ўзялі за сэрца князя.
Угаварылі хітрасцю няўстаннай,
Што мае дабрачыннасць, талент, розум,
Што свету ён і шчасце і пагроза,
Што можа з шахам мерыцца Ірана,
Збіць туркаў, шведаў,
вытаўчы крыжакаў,
За дзень і збудаваць і знішчыць Кракаў...
Ўзрасталі ў сэрцы пыха, гонар, радасць,
І, дрэмлючы спакойна на абедзе,
Лічыў, што бацька ён народу,
біч суседзяў,
Што рухам шапкі скіне свет з пасады.

Жыў пры двары тады Парай [1], ваяка верны,
Што рускіх біў цароў яшчэ з Альгердам.
Цяпер служыў стары без платы, без рахубаў
І князя асуджаў, бо ўбачыў панства згубу.
Спалоханая чэлядзь, каб прарока
Прыбраць найдалей з Мешкавага вока,
Агулам на яго напала. Пагарджаны,
У родны кут пайшоў Парай-выгнанец
І там, загон свой аручы адзіны,
Рыдаў над згубай і бядой краіны.
Тым часам Мешка ў княскім замку седзеў...
Рвуць край правадыры, а з-за мяжы — суседзі.
І адбіваўся стогн, што енчыў люд падданы,
Ад гарадскіх муроў, ад вежаў, ад паркана,

[1] *Парай* — назва герба Міцкевічаў.

Калі ж і далятаў да княжацкага вуха,
То князь ім пагарджаў ці краем вуха слухаў.
У згубе край, правы у паняверцы,
І дрэмле князь, і багацеюць здзерцы.

Тут Ягова на Мешку кінуў свой позірк ласкавы
І захацеў, каб каханне вярнула яго
да жыцця і да славы.
І як убачыў наваградскі князь прыгожую
Зылю,
То ўздыхнуў, а яна у адказ кінула позіркам
міла.
Жвавы, яшчэ малады, пакахаў ён адразу і
скрыта.

Новым жыццём ён зажыў, новым, нязведаным
бытам.
Сталы у выбары, бо ўпершыню закаханы,
Агалашае аб шлюбе магнатам і бліжнім
дваранам.

Ўбачыўшы змены ў двары,
прапаведнік, і хцівы, і хітры,
Горды павагай сваёю ды біскупскай мітрай,
Рушыў да пана свайго
і, прыбраўшыся ў постаць святога,
Страшыць пачаў і сцябаць
аргументамі проста па рогах;
Кляў ён любоў. Цытаваў Гіава [1], псалмы,
каноны,

[1] Адзін з біблейскіх пракокаў.

Кнігі Айцоў περатрос і абодва Законы.
Ўспомніўшы зразу пасля
пра пякельнае душ пакаранне,
Заверашчаў пра Люцыпара і пра агонь
непатольны,
Так напалохаўшы князя, што той мімаволі,
Зноў падурнеўшы, згадзіўся на Зылі выгнанне.

Хутка мелася ехаць... І раптам лямант да бога:
Юзаф! Марыя! Алах! Хапайце! Уносьце ногі!
Спуджаны люд уцякае,
гудзе растрывожаным роем.
Рыцар нейкі,
прыбраны турбанам усходнім і зброяй,
Гоніць натоўп, як авец,
і дагнаных бязлітасна нішчыць;
Гнеў у вачніцах яго,
сталь двусечная ярасна блішча.
Тут і татарскі загон галёкае,
страшна галосіць,
Рвецца праз котлішчы хат
і пабітых крывавыя стосы;

Ў замак іх гоняць жаданні.
Ім смешнае людскае гора.
Мур раскрышыўся ў пясок,
з петляў зляцелі запоры;
Меч прадзіраецца ўнутр
праз агонь і барвяны і сіні,
Йдуць на разьбу мужыкі
і на вечную ганьбу жанчыны.

Быў то Мамай,
правадыр апантаны татараў зухвалых,
Ласы на бойку, здабычу, разню
і на тое, як хваляць,
Вырас на краі зямлі,
дзе замерзлі салоныя хвалі,
Вывеў арду на зямлю,
дзе сонца ласкавае паліць,
Землі ад Нёмна да схілаў Каўказа,
дзе вежы паўсталі,
Шчодра агню падарыў
і ласай скрываўленай сталі.

Ўзяў нават Кіеў,
сталіцу русінаў і град уславёны,
Хоць бараніла яго святых велічэзнае грона,
Бо ад спалоху,
ад рыку татарскіх раз'юшаных сурмаў
Дружна яны паўцяклі
перад згубай і ярасным штурмам,
Ў норах падземных і лёхах схаваліся з жалем,
Дзе і дагэтуль іх славяць
малітвай і звонкім металам.
З Кіева рушыў Мамай пад акопы славутае
Вільні,
Ды атрымаў там па шыі
ад варты магутнай і сільнай,
І праляцеўшы міль трыццаць
да рання ўсім конскім загонам,
Змог папярэдзіць ганцоў
і зусім не сустрэў абароны.
Тых, што пазбегнулі смерці,
усіх, па Мамая загаду,

Скулі адным ланцугом,
грунтоўна, трывала і радам.

Крэкчуць жыды на папах,
ваяводы — на шлюхах, нябогі,
Скручаны рукі да рук,
прыкутыя ногі да ногаў,
Так жыхароў нашых вёсак,
ластавак мілую зграю,
Злая пагроза марозаў
ў стайкі над Шчарай збірае.
Сотняй лятучых палкоў,
што над водамі доўжыцць і доўжыцць,
Ўецца бясконцы ланцуг
з маленькіх і пры́язных ножак.
Або як дзеці Іо [1], якім пухлыя ножкі нятонкія
Звыклы мужык, пазвязаўшы ў тугія пастронкі,
Гучных не чуючы скаргаў і чулых ўздыханняў,
Ў Зэльву ці ў Мір
на таргі валачэ на саломе ў санях;
Так і Мамай свой звязаны палон і багаццяў
грамады
З жэрабем згодна дзяліў
між сваіх пераможных намадаў [2].
А калі ўсё ж у канцы не ўсе яны роўнае мелі,
Грошы з мяшчан паздзіраў ён
і вопратку з брэннага цела.

Праўда, што хочучы знаць
чалавечы характар ці чары,

[1] Цяляты. Паводле грэчаскай міфалогіі, багіня Гера ператварыла Іо ў ялаўку.
[2] Грэчаская назва народаў-качэўнікаў. У гэтым выпадку — татары.

Добра было б нам, панове,
наследаваць звычай татараў;
Нашы краўцы ўсё ваююць з беднаю гэтай
прыродай,
Зграбнае крыючы ўсё, а хібы хаваючы модай.
Мешка аддадзены гордаму хану Мамаю.
Быў ён сабой малады, цягавіты, як знаем,
І аддалі яго ў стайню, між іншых гайдукаў;
Многа карысці ён меў,
той занятак займеўшы у рукі.
Ў бесперапынным няспанні,
у вечнай увішлівай працы
Нервы свае узмацніў,
што бяздзеллем счарпаў у палацы.
Зведаў і шчасцю цану,
як няшчасце ўканец баданула,
Подлага думаць не стаў
і цярпеннем узброіўся мула.
Нават спакойную мужнасць
у ім нарадзіла нядоля,
Хоць, каб бліснуць гэтай мужнасцю,
і не знаходзіў ён поля.
Ну, а тым часам Мамай, ў Мешкавым сеўшы
палацы,
Піў адпачынак, раскошу й спакой
пасля працы,
Лыкаў здабытыя віны,
бо помніў закон Магамета,
Світа шматлікі гарэм яму
зграмаздзіла пры гэтым;
Сотні вясковых і вулічных дзевак
і фрэйлін прыдворных
Гонар мелі належаць да гэтай высокае зборні.

Ну, а пакольki шукалі няспынна,
то пэўнае хвілі
Той жа нязведаны лёс
па чарзе падышоў і да Зылі.
Мешка, з пана — гайдук,
між прыгонных былых нешчаслівых
Мусіў аслоў аб'язджаць,
мусіў коням расчэсваць грывы,
Шчасця пазбаўлен, надзеі і ўсякай пацехі;
Дужа цярпліва пакутваў за радцаў няшчырых
агрэхі.
Толькі ўбачыўшы раз, як бясполы любові
прыслужнік
Зылю цягне ў сераль,
аддзяліўшы яе ад падружак,
Выпрабавання такога не вынес і, бледны,
бяссілы
І беспрытомны амаль, хоць кладзі у магілу,
Страціўшы розум,
прыкметы жыцця, ўвесь абліўшыся потам,
Каменем стаў, як палова салоная Лота [1].
Але адна толькі думка,
што Зыля чужынцу адходзе,
Кідае ў млоснасць яго
і з млоснасці хутка выводзіць.
Сілы сабраўшы усе,
ён да Зылі звярнуўся з запалам:
«Здрадная ты!
Ці таго мы ад здраднай чакалі!»
Зыля, якую зладзеі вялі паўз яго на спатканне,

[1] Згодна з «Бібліяй», жонка Лота азірнулася наперакор боскаму загаду на палаючыя Садом і Гамору і была за гэта ператворана ў саляны слуп.

Чуючы, як яе вабіць салодка каханы,
Стала й замест адказу
цяжка ўздыхнула й глыбока.
Поўнае слёз на яго шляхетнае кінула вока,
Што пранікае у сэрца, і так яна князю гавора:
«Енчыць дарэмна пакінь,
і у сэрцы згасі сваё гора!
Вось яна, продкаў краіна,
стаіць з-за цябе на каленях,
Кліча з аковаў чужых падмогі і вызвалення.
Хай цябе ўзброіць ганьба каханай тваёй
краіны.
Ўстань! За сябе адпомсці!
За шчасце каханай, што гіне.
Згінеш — адважная смерць тваю паменшыць
няславу,
Здужаеш — будзеш годны мяне і айчыннае
славы».
Ўсё зразумеў гэта Мешка,
й надзея бліснула упарта.
Зылю тым часам далей павяла непадкупная
варта.
І, як Мамай яе ўбачыў у замкавым гмаху,
Хай сабе ў горкіх слязах,
хай сабе бледную, ў страху,
Здзіўлены тварам прыгожым
і постаццю стрункай, дзявочай,
Ўцяміў: на падлу дасюль глядзелі ягоныя
вочы.
Толькі цяпер на ўсю моц каханне ён адчувае.
Хан у абдоймы пабег; Зыля свой твар
закрывае.
Бачыць, што хан настойлівы,—

сэрца ўсё ўпарцей б'ецца,
Як без жадання бароніцца,
ў сораму ціха смяецца;
Не пагарджае прызнаннямі, але пяшчот не
прымае,
Супраціўляецца ім і масла ў агонь падлівае.
Урэшце з прывабнасцю вечнай,
што кожнай кабеце так лічыць,
Кажа: «О пане, між іншых я здабытак твой
і здабыча!
Хто з табой не завяжа бой —
тут ні сэрца, ні меч не паможа, —
Ўсе яны ў ланцугі твае падаюць
або хочуць ўпасці на ложа.
Але даруй: па прычыне, якой не назаву
я найменна,
Сёння я страсці тваёй не здолею даць
паталення.
Толькі тры дні пачакайце.
Дзень трэці узыдзе у бляску...
«Добра, — усклікнуў Мамай, —
тваёй прыгажосцю сусветнай,
Гэтым мячом, святой барадой Магамета
Цвёрда клянуся:
загад твой, што б ні жадала, я споўню,
Шчыра мне толькі скажы,
не загортвай словы ў бавоўну!»
«Спершу, — адказвае Зыля, —
ўсып сотню ды збольшага віцаў
Мніху і гэтым прыдворным,
што зараз сядзяць у вязніцы.
Потым, сам разумееш, у цяжкім любоўным
чаканні

Сумныя будуць мне дні і бяссонныя ночы да
ранняя;
Пакуль убачыш ты прагным позіркам трэція
зоркі,
Добра б паездзіць вярхом
па лагчынах, лясах і узгорках.
Вернай каханай дазволь
выбраць са стайні сягоння
Пры даязджачым паслужлівым пару імклівую
коней».
Зразу ж Мамай загадаў справу давесці да
ладу;
Зылі на радасць, наваградцам бедным на
радасць
Поп і міністры дасхочу лозаў дасталі у спіны,
Коней імклівых далі дзяўчыне без цяганіны.
Мешка таксама убачыў лёсу няўмольнага
змену,
Стаўшы вазніцай пры той,
прад якой бы стаяць на каленях.
Раніцай едуць назаўтра
па луках нядальніх і горах,
Калі ж схаваўся з вачэй
за лясамі і ўзгоркамі горад,
«Зараз, — азвалася Зыля, —
спяшайся, мой Мешка каханы,
Маеш каня і свабоду, дык подлыя знішчы
кайданы.
Войска сабраць паспяшайся на абарону краю,
У мужнасці знойдзеш падмогу
і ў верным ваяку Параю.
Умоляць яго —
хоць цяжкая стрэла старога знявага —

Калі не ты, то народ,
якому нясцерпна і блага.
Я падрыхтую таксама усе спружыны і грунты,
Толькі б наваградскі люд
узняць да апошняга бунту.
Чым бы нам лёс не гразіў —
на ўсё я гатова для краю,
Згіну ці буду тваёю і родны мой край захаваю.
Час дарагі у баі і ў каханні.
Спяшайся у гневе!»
Князь, пасылаючы ёй
пацалунак з зефіру павевам,
«Любая», — рэк,
і дрыкганта зразу нагайкаю выцяў
І паляцеў па сяброў,
што жорстка абразіў калісьці.
Скача Парая маліць.
Той жа ў надзейным укрыцці
Зведаў ужо аб разні і горада страшным
здабыцці.
Рэшту хацеў зратаваць
ад мангольскіх мячоў і ад гора,
Верную шляхту з ваколіц паклікаў Парай да
адпору.
Ў табар прыходзяць ашмянцы —
на плечах доўгія дзіды,
З шаблямі слонімцы валяць
і меткія лучнікі з Ліды.
З імі спяшаўся Парай
пад горад пушчанскаю сцежкай,
Калі спаткаўся,
падмогі надзейнай шукаючы Мешка.
Здзіўлены былі абодва, расчулены былі абодва,

Паабяцалі забыць мінулыя спрэчкі і зводні.
Мешка упэўнены быў,
што цяпер ён здзейсніць задуму,
Мужнасць злучыўшы з увагай
і дзейнасць з разважлівай думай.
Войска у спешцы прайшло плыні імклівыя
Нёмна,
Варту чужынцаў у рукі ночка ім выдала
цёмна.
Ледзьве што першая Феба [1]
на бледным ўзышла небаглядзе,
Родны свой горад
яны здабылі ў раптоўным нападзе.
Ў тую гадзіну якраз пышны татарын зухвалы
З Зыляю ў позняй бяседзе
п'яныя выказваў запалы.
Дзікім жаданнем распалены
й мёдам гіблейскім [2] дамовым,
Выканаць ён захацеў трохдзённую ўрэшце
умову.
Ўжо ён каханку з бяседы
цягне хутчэй пад атласы,
Грудзі сціскае, нектарам з рота ўпіваецца
ласым.
Ўжо яе цела хацеў агаліць з залацістых
валокнаў,
Як нечаканым зіхценнем сталь заяснела
у вокнах.
Крык узляцеў, і гарматы частым забухалі боем,

---

[1] Грэчаская багіня Месяца.

[2] Сіцылійскі горад Гібля славіўся пітным мёдам, які зваўся гіблейскім.

Пошчак разлёгся мячоў,
храбусценне булатнае зброі,
Ўпалі з завесаў дзвярэй палавінкі, і злёту
З месца сарваўся Мамай,
лебядзіную кінуў пяшчоту.
Нібы той Мяўкас,
якога заспелі, як сала ён крадзе,
Без асаблівай ахвоты думае аб рэцірадзе.
Марна склікае ён варту,
позна сечы шукае крывавай.
Ў вязні пайшоў...
Так Мамая згубіла уласная справа.
Калі дзянніца ўзышла
і спачыла на жорсткім жалезе,
У двор дармаеды-міністры,
з кайданаў уцеклыя, лезуць;
Кожны з іх мужнасць сваю,
спрытнасць і розум свой хваліць,
Хоць зубамі ў свой час,
нібы цюцькі, яны ляскаталі.
Поп, пажадаўшы сваю ўваскрасіць абсалютную
ўладу,
Мешку сказаў: «Ад душы, княжа, даю я
параду:
Тут жа Мамая забі!
Ў лоб яму стрэльні зухвала,
Лысіну сцяць загадай
ці ўсадзі на высокую палю,
Калі жадаеш навекі міру зямлі сваёй роднай».
«Злодзей ты !— Мешка ўскрычаў,
— Расцяпа! Паршывец нягодны!
Ты яшчэ, поскудзь,
мне смееш нейк трапляцца на вочы?

Прэч! Пакуль вось кулаком не заклеіў я
вобраз твой смочы!
Або душу з каўтуна вытрасу, гад ты балотны!
Лотра, што вечна мяне
на ўсякую ўзводзіў няцноту,
Шчасця пазбавіць хацеў,
чысціні і кахання, паганец,
Вучачы годных губіць
ды дуднець свой пракляты ружанец!
Сёння, па ласцы нябёсаў,
макам пайшла твая праца,
Змусілі нэндза з каханнем мяне да цноты
вяртацца.
Храбры Мамай!
На ўсё гэта набег твой адкрыў мае вочы!
Вольны ты зараз ісці, куды сабе толькі
захочаш!
Можаш з навукай сваёй
за Волгай ці Рэйнам прайсціся,
З гэтага часу я здольны ўжо без яе абысціся.
Але, як вучань удзячны,
адразу, ледзь толькі пачую
Тое, што еўнухі ганьбяць зямлю,
для цябе дарагую,
Смокчуць кроў з твайго люду,
трасуць тваім краем, падлюгі,
Зразу ж прыйду да настаўніка я
з узаемнай паслугай».

# БУЛЬБА

*Фрагмент*

О навагрудскі край — мой родны дом,
Праслаўлены Трамбецкага[1] пяром,
Куды б мяне ні кінуў лёс жыццёвы,
Забыць я не змагу твае палі, дубровы.
Нас вабіць невядомым край чужы, —
Цікава паглядзець. Але нязручна жыць,
Дзе свет заціснуты між гор высокіх,
Змяшаліся святло і цень, мароз і спёка,
То выпнецца зямля да хмар гарой,
То прорваю разявіцца нямой;
Дзе гвалтам незямная злая сіла
Сяброў і ворагаў на вечны здзек злучыла:
Змагаецца зямля з вадой, вада — з агнём,
Расліна — з каменем, а камень — з перуном;
Дзе сталасці не знаюць нават скалы:
То з іх злятаюць снежныя абвалы,
То з грукатам агонь так шугане,
Што ўсю планету ў момант страсяне.

Ты ж не такая, Русь, — адкрыта воку:
Ні прорваў, ні вяршынь — прастор шырокі,
Раздолле, пекната і хараство,

[1] *Станіслаў Трамбецкі* (1735—1812) — вядомы польскі паэт, аўтар апісальнай паэмы «Сафіёўка».

Смарагд вясною, золата ў жніво.
І нездарма ў такім прыгожым краі
Жывуць спрадвеку добрыя звычаі.
Адсюль Мендога [1] войскі ў бой ішлі,
Мясцовыя Рэйтаны [2] тут раслі.
Калі ж пагроза чужакоў знікала,
Старанны люд каваў з мяча арала,
З вясны да восені зноў гнуўся на палях,
Каб не ўдавела родная зямля.
І хоць на выкапні яна скупая,
У нетрах рэдкіх скарбаў не хавае:
Ні золата, ні меднае руды,
Ні серабра, ні лекавай вады, —
Ды восенню за дбайнасць і руплівасць
Аддзячыць шчодра хлебароба ніва:
Напоўніць свірны залатым дабром,
Пладамі — лёхі, ёўні — кужалём,
І будуць на прыволлі ў чыстым полі
Пародзістыя бугаі сваволіць.

Жыві ж ты ў шчасці, наднямонскі край,
Багатыя ўраджаі з ніў збірай,
Будзь знакаміты ўсім сваім народам,
Не толькі Верашчакаў [3] слаўным родам,

---

[1] Літоўскі князь Міндаўгас.

[2] Тадэвуш Рэйтан, родам з Навагрудчыны. Горача пратэставаў супраць падзелу Польшчы ў польскім сейме.

[3] *Верашчакі* — старадаўні шляхецкі род на Навагрудчыне. З яго выйшла Марыля Верашчака, першае каханне паэта.

Не толькі графам шчорсаўскім[1] адным,
Які навукай робіць цуд зямны.
Няхай хтось іншы ўславіць вершам звонкім
Твае палацы, замкі і маёнткі,
Тваёй дзяржавы гістарычны ўзлёт,
Заможны твой і вольны твой народ.
Я ж — сын твой — з простых слоў вянок
сплятаю
Твайму працаўніку — касцу і аратаю.
. . . . . . . . . . . . .

---

[1] Шчорсаўскі граф Іаахім Храптовіч быў вядомым асветнікам і рэфарматарам, выступаў за вызваленне сялян ад прыгонніцтва.

## ДА ЧАЧОТА

Хто танцуе лепш за Янку?
Хто яшчэ такі вясёлы?
Просяць Янку на гулянку
І паненкі і анёлы.

Узлятай жа пад аблокі,
Покуль ёсць у целе сіла,
Покуль ногі рвуцца ў скокі
І бруіцца кроў у жылах!

Мне ж сягоння не да песні,
Не прагоніш прэч самоту,
Ў галаве не думы — плесні,
І на сэрцы — холад лёду.

Ёсць жаданні, ёсць імкненні,
Ды нудота сэрца смаліць.
Як жа мне вярнуць натхненне?
Хто ў душы агонь распаліць?

Шлю паклон табе, мой браце,
Пацалункі — паннам-краскам.
Чым без вас жыць у палацах,
Лепш ў труне быць з вамі разам.

# ДА НЁМАНА

Нёман, прытулак мой хатні! Празрыстай вадою
Ты абмываў мне калісьці маломý далоні;
Плыў па табе я, пакінуўшы родныя гоні,
Ў землях далёкіх шукаць свайму сэрцу спакою.

Тут Лаура, мяне паланіўшы красою,
Валасы заплятала і ўквечвала скроні.
Светлы вобраз яе ў тваім чыстым улонні
Муціў я не раз гарачай юнацкай слязою.

Нёман, рака мая! Вечна імклівыя хвалі!
Дзе тое шчасце? Лепшыя нашы намеры?
Шчырасць дзяцінства, поўная радаснай веры?

Ўзлёт маладосці арліны ў прыгожыя далі?
Ні сяброў, ні Лауры. Замкнёныя дзверы.
Што ж мае слёзы так да мяне прысталі?

# ПЕСНЯ ФІЛАРЭТАЎ [1]

Гэй, знікні, суму хмара!
Жывём мы толькі раз.
Хай залатая чара
Не марна вабіць нас.

Пускай яе па кругу,
Падай у рукі другу,
Бяры і пі да дна,
Дзе глыб жыцця відна.

I не мялі пустое —
У чары польскі мёд,
Спявайма толькі тое,
Што родны склаў народ.

У пыл бібліятэкі
Ты лез, каб сёння жыць, —
Гуляць і піць, як грэкі,
I, як рымлянін,— біць!

Юрыстам, як дарунак,
Стаў келіх кругавы.

[1] *Філарэты* (сябры дабрадзейнасці) — члены нелегальнай студэнцкай арганізацыі, якая дзейнічала пад кіраўніцтвам філаматаў.

Падай цяпер руку нам,
А заўтра — дай правы.

Не ўзніме красамоўства
Свабоды змагароў.
Дзе мужнасць і сяброўства,—
Браты, не трэба слоў!

Хто гне метал і паліць —
Расплавіць працай час.
У залатым метале
Кіпіць віно для нас.

Той хімік па прызванню,
Мудрэц і жыццялюб,
Хто можа мёд кахання
Цягнуць з дзявочых губ.

Планет шляхі-дарогі
Ўсе змераўшы як след,
Быў без апоры ўбогім
Славуты Архімед.

Калі захоча зрушыць
Цяпер зямлю Н'ютон,
Хай злічыць нашы душы
І — хопіць! — скажа ён.

Вучоным цыркуль мілы
І мёртвы бляск свяціл,
Для нас намераў сіла
Праўдзівей меры сіл.

Наш цыркуль — сэрцаў вера,
Імкненняў ясны дух.
Дабро — адна ў нас мера,
І дружба — болей двух.

Гэй, згінь ты, суму хмара!
Жывём мы толькі раз.
Стаіць, чакае чара,
Ды не чакае час,

Кроў студзіць, скроні беліць.
Закрэсліць вечнасць нас,
Закрыўшы вочы Фэлі... [1]
Вось філарэтаў сказ!

---

[1] *Фэля* — дзявочае імя, якое часта ўпамінаецца ў сяброўскіх вершах філарэтаў.

# З «ГРАЖЫНЫ»

Цемра, ды вецер, ды стынь на абшары,
Доле — туман, а высока-высока,
У каламуці раз'юшаная хмары,
Месяц няпоўным паблісквае вокам;
Свет, нібы склеп, змураваны з камення,
Неба ж над ім, як глухое скляпенне.
Цемра паўночная. Ранне далёка.

Ля Навагрудка, на ўздыбленых горах, —
Замак у месяца срэбным зіхценні;
Вал здзірванелы схаваўшы, сувора
Волатаў-вежаў ламаныя цені
Падалі ў роў, дзе між вечнай цясніны
Дыхалі воды, затканыя цінай.

Замак заснуў — ні агню і ні дыху,
Толькі па вежах бяссонная варта
Воклічам цішу палохае ўпарта...

Раптам дайшло вартавому да слыху:
Постаці нейкія нібы на гонях...
Чорныя цені за імі гурбою...
Блізка ўжо... скачуць учвалам на конях...
Панцыры ззяюць і бразгае зброя.

Коней іржанне і цокат падковаў;
Рыцары, трох іх, ужо каля рова.
Едуць, спыніліся, голас падалі,
Трубы мядзяныя ўночы зайгралі —
Раз, і другі раз зайгралі, і трэці,
Варта ім з вежаў адказвае рогам,
Грымнула брама, паходня ім свеціць,
Падае мост, і яны — за парогам.

Бегла да брамы, спяшалася варта:
«Хто тыя людзі, з мэтай якою?»
Першы быў волат, узброен не жартам,
Немец заўжды так узброен да бою:
Меў чорны крыж ён на белай капіцы,
Крыж на грудзях ў залацістай пятліцы,
Трубку мядзяную, дзіду у току,
Чорны ружанец і шаблю пры боку.
Цямяць літвіны: нямецкая цацка!
Шэпча адзін і другі за ім шэпча:
«Пёс гэты, пэўна, са псярні крыжацкай —
Тоўсты, бо штодзень кроў прускую хлебча.
О, каб людзей тут не гэтак багата!
Знішчыць бы гэтага гада павінны —
Раз, ды пад мост,— па заслугах адплата...»
Так між сабою шапталі літвіны;
Перасмыкнуў толькі немец плячыма —
Людскую мову ён ведаў, магчыма.

# РАМАНТЫЧНАСЦЬ

Methinks, I see... Where?
— In my mind's eyes,
Shakespeare[1]

Слухай, дзяўчына!
— Не хоча слухаць. —
Тут дзень белы, тут хаціна!
Няма жывога з табою духа.
Што вакол сябе хапаеш?
Каго клічаш і вітаеш?
— Не хоча слухаць.

То халоднаю скалою
Ўдаль глядзіць перад сабою,
То сардэчна уздыхае,
То слязьмі яна зальецца,—
Штось нібы схопіць, нібы трымае,
Заплача і засмяецца.

«Ты гэта, Ясю? Ты — нават ноччу!
Ах, і па смерці кахае!
Тут асцярожна ступай, тут збочым—
Мачыха лепш хай не знае!..
Хай сабе знае! Ты ж пахаваны!
Цябе няма ўжо, каханы!
Хіба памёр ты? Дрыжу ўсім целам,

[1] «Здаецца мне, што бачу... Дзе? Прад вачыма душы маёй». Шэкспір.

Баюся... Каго, мой любы?
Ты ў сваім тут адзенні белым,
І вочы твае, і губы,
І сам ты, як хустка, белы
Застыў — не пазналі б людзі...
Далоні кладзі мне на грудзі!
Грэй вусны на вуснах смела!..

Ах, як сцюдзёна ляжаць пад зямлёю!
Памёр ты — мінулі ўжо годы!
Вазьмі і мяне ты — памру з табою!..
Мне свету не шкода.

Сярод людзей злых мне дрэнна!
Смяюцца, калі я плачу.
Кажу ім — кажу дарэмна.
Бачу — яны не бачаць.

Днём лепш прыйшоў бы! Так сніцца
можа...
Не, ты са мною, каханы...
Куды знікаеш, Ясенька? Пастой жа!
Яшчэ так рана, так рана!..

Мой божа! Певень спявае,
Зара ўзыходзіць ясна...
Пастой жа! Куды, Ясенька,
знікаеш?..
Ах, я няшчасна!..»

Гэтак дзяўчына днём пры народзе
Гаворыць, песціцца з мілым,
Раптам ускрыкнула, ўпала — і
годзе! —
Людзі яе акружылі.

«Маліцца трэба! — крык людзей
чуўся, —
Душа яго тут быць павінна.
Ясь недзе блізка, каля Карусі, —
Кахаў пры жыцці ён дзяўчыну».

Я ў гэта веру, я гэта бачу,
Малюся ціха і плачу.

«Слухай, дзяўчына! — стары тут
збоку
Азваўся і людзям кажа:
— Паверце шкельцу майму і воку,—
Не бачу нікога аднак жа!

Духаў ствараюць п'яныя недзе,
Іх выдумляюць без меры...
Дзяўчына глупства пляце і брэдзіць,
А чэрнь неразумная верыць».

«Дзяўчына бачыць, — кажу з
дакорам, —
Людзі ёй вераць глыбока.
Адчуванне і вера мне больш
гавораць,
Як шкло мудраца і вока.

Мёртвыя праўды расказваеш люду:
Свет цэлы ў пылінцы знаходзіш,
здэцца.
Не знаеш жывых праўд — і не
ўбачыш цуду.
Май сэрца, глядзі у сэрца!»

# СВІЦЯЗЬ

*Балада*

*Міхалу Верашчаку* [1]

Калі навагрудскія ўбачыш прасторы,
Ракітнік разгалісты, нізкі, —
Каня супыні ля плужынскага бору,
Каб глянуць на возера зблізку.

Гушчар лесу пахне чаборам і мёдам,
Жывіцы настоем смалістым.
Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду,
Ляжыць паміж дрэваў цяністых.

Калі пад'язджаеш начною парою
І станеш да возера тварам, —
Мігцяць зоркі ў небе, мігцяць пад табою,
Мігціць там і месяцаў пара.

Не знаеш, — з-пад ног, можа, гэта
шкляная
Ідзе аж да неба дарога
Ці неба шкляное скляпенне схіляе
Табе аж пад самыя ногі!

І той, другі, бераг убачыць не ў сілах —
З вышынямі возера зліта.
Нібыта вісіш ты на птахавых крылах
У нейкім бяздонні блакіту!

---

[1] *Міхал Верашчака* — брат Марылі, каханай Міцкевіча.

Так ноччу прыемна памыляцца вочы
Пры добрай, пры яснай пагодзе.
Ды толькі да возера зорнага ноччу
З храбрэйшых храбрэц падыходзіць.

Бо там вырабляе нячысцік такое!
Між хваль вадзяны там плюскоча.
Дрыжу, як дзяды мне гавораць пра тое,
Успомніць аж страх перад ноччу.

То ў возеры гоман, то лямант вялікі,
То ўспыхне агонь сіняваты.
Гул бітвы, лязг зброі, жаночыя крыкі,
Галошанне, звону раскаты.

А ў міг — дым асядзе і крык суціхае,
І толькі лес ціха шапоча,
Ды ў возеры хтосьці малітвы чытае,
Чуваць сумны голас дзявочы.

А што гэта? Людзі плятуць хто што
зможа,
На дно ж з іх ніхто не спускаўся.
То гэтак раскажуць, то йнакш казку
зложаць,
А хто з іх да праўды дабраўся?

І пан той, якому ад прадзедаў гэты
Куток чарадзейны дастаўся,—
І многія зімы, і многія леты
Раскрыць таямніцу стараўся.

І ён загадаў: — Лес рубіце і рэжце!..—
Чаўны й караблі збудавалі.

І невад глыбокі — стоп [1] ажно дзвесце —
Вязалі, старанна сплятані.

Я раіў, падказваў, што з богам патрэбна,
Належна рабіць, без паспеху.
Ў касцёлах бліжэйшых далі на малебны.
І з Цырына [2] пробашч прыехаў.

На беразе стаў ён, надзеў свае шаты.
Крапіў ён вадою святою.
Вось пан даў каманду, і ветразі ўзняты,
І невад ідзе пад вадою.

І ён валачэ паплаўкі за сабою,
Вяроўкі напяты. Глыбока
Затоплены невад, ідзе пад вадою —
Не злоўлена, мусіць, ні вока! [3]

На бераг ужо два крылы узвалілі,
Карма, нібы невада рэшта...
Ці чулі, якое страхоцце злавілі?
Ніхто не паверыць, хоць рэжце!

Аднак вам скажу я: зусім не пачвара,
А проста жывая дзяўчына.
Шаўковыя косы, бялявая з твару,
А вусны яе, як маліна.

На бераг выходзіць. Адны — ўраз
наўцёкі,
Другія нібы скамянелі.

[1] *Стапа* — старая мера даўжыні.
[2] *Цырын* — мястэчка на Навагрудчыне.
[3] *Вока* — старая адзінка вагі.

А словы красуні тае сінявокай
Прыемна, пяшчотна гучэлі:
«Адкрыю сваю таямніцу народу:
Тапельцаў ляжыць тут нямала.
Хто толькі спускаўся на гэтыя воды, —
На дно таго возера брала.
І ты б, храбры, гэта з дружынай адведаў,
Загінуў бы ў спрэчцы няроўнай,
Ды шчасце — тут край твайго прадзеда,
дзеда,
Ты з нашай радні, ты нам кроўны.
За тое, што вы акрапілі тут воды,
Па-боску зрабілі чын-чынам, —
Маімі бог вуснамі скажа народу
Гісторыю гэтых глыбіняў.
Дзе сёння шуміць бор спрадвечны,
вынёслы,
Дзе цар-зелле [1], лозы ды травы;
Дзе вашы ўзлятаюць над хвалямі
вёслы, —
Быў горад калісьці на славу!
Быў Свіцязь, як рыцар, — яму ўся
пашана,
Жылі ў ім красуні-дзяўчаты.
У часы панавання тут князя Тугана [2]
Рос горад магутны, багаты.
І лес не шумеў тут дрымотны са
смуткам —
Звінела калоссе пшаніцы.

---

[1] *Цар*-зелле — падбел.
[2] *Князь Туган* — прозвішча князя ўзята ад назвы маёнтка Туганавічы, дзе жыла Марыля Верашчака.

Адсюль былі бачны муры Навагрудка —
У той час літоўскай сталіцы.

Цар грозны аднойчы напаў на Мендога [1],
Канец прыйшоў ладу й спакою.
На ўсю Літву пала бяда і трывога:
Заплаціць Мендог галавою?!

Пакуль сцягнуў войска з далёкай
граніцы,
Да бацькі майго Мендог піша:
«Туган! На табе абарона сталіцы,
Патрэбна, каб з войскам ты выйшаў».

Той ліст прачытаўшы, Туган кліча
войска:
— На бітву! Драмаць нам няможна!..—
І стала адразу пяць тысяч геройскіх —
І конны, і ўзброены кожны.

І трубы зайгралі, а трубаў тых гукі —
Склікаюць пад сцягі змагацца.
У горы Туган заламаў раптам рукі,
Ад брамы зноў скача к палацу

І кажа мне: «Хоць я чужых уратую —
Загінуць уласныя людзі,
Бо ведаеш, Свіцязь жа толькі
вартуюць —
Булаты і нашыя грудзі!
Калі папалам раздзялю я дружыну —
Мендогу малая апора;

[1] *Мендог*, або *Міндаўгас*,— вялікі князь літоўскі ў XIII стагоддзі. Сталіцай Літвы пры ім быў Навагрудак.

Калі ж к Навагрудку я ўсю яе кіну, —
То вам тут адным будзе гора!»
Кажу яму: «Бацька, вядзі сваю сілу,
Ідзі, куды клікнула слава!
Нас бог абароніць, анёла я сніла, —
Над горадам нашым ён плаваў,

Маланкаю-мечам абвіў наўкол Свіцязь,
Раскрыў залацістыя пёры,
Сказаў мне: «Спакойна працуйце і
спіце,
Я з вамі — не будзеце ў горы».

Паслухаў Туган — удагон за дружынай...
Ды толькі, як ноч наступіла, —
І грукат, і тупат — то грознай лавінай
Варожая коціцца сіла!

Як грымнуць тараны, град ядраў,
камення.
Упалі са скрогатам брамы.
Старыя, жанчыны — на плошчу ў
імгненне,
Услед бягуць дзеці за мамай.

І крыкі, і лямант: «Што будзе тут
з намі?
Русь хлынула, Русь атакуе!
Ах! Лепей жыцця мы пазбавімся самі, —
Ад ганьбы хай смерць уратуе!»

І ў гневе паходні распальваюць ярка,
Кастры палыхаюць траскуча:
У попел — нажыткі, у дым —
гаспадаркі,
А крыкі — са злобай пякучай:

«Праклён жа таму, хто сам сёння не
згіне!»
Да смерці да ўласнай гатовы.
Ужо і сякеры блішчаць лязом сінім,
І людзі схіляюць галовы...

Ці здацца — ў палоне звінець ланцугамі,
Жыць рабскім жыццём непрыгожым?
Або сябе знішчыць сваімі рукамі?..
«Дзе выйсце, — крычу я, — о божа?!

Калі ўжо скарыцца нам ворагу трэба,
Калі бярэ верх яго сіла, —
Няхай нас ударыць гром з яснага неба,
Хай прыме жывых нас магіла!»

І раптам праменнае нешта між ночы
Мяне абвіло белізною.
У дол апускаю спалохана вочы —
Зямлі ўжо няма пада мною!

Мы так уцяклі, не пайшлі ў паланянкі
Да ворага... Глянь — зеляніна:
І зелле, і кветкі — то ўсё свіцязянкі, —
Нас бог абярнуў у расліны.

Лісты ўсе зялёныя, нібы ў яліны
Ігліцы, як выбеліць іней.
Плывуць над вадою, як пух лебядзіны,
Бялеюць над безданню сіняй.

Як знак чысціні, і вось гэтай парою
У колер у белы адзеты.
І той, хто кранецца крывавай рукою, —
Не ўбачыць ён белага свету.

4

Адчуў на самім сабе цар рускі гэта,
Адчула ягоная світа:
Нарвалі на беразе возера кветак, —
Галовы вянкамі абвіты.

Ды толькі хто браў кветкі гэтыя ў рукі,—
Была ў іх жахлівая сіла, —
Той падаў, і енчыў, і корчыўся ў муках,
Таго смерць адразу касіла.

Прайшлі з таго часу, мінулі стагоддзі,
Ды ў памяць аб тым пакаранні
«Царамі» завуць тыя кветкі ў народзе,
У песні старой, у паданні...»

І вось адыходзіць красуня памалу,
Чаўны патанулі і сеці...
Шум чуецца ў пушчы, ўздымаецца хваля
І грозна на бераг нясецца.

Да дна расхінаюцца раптам глыбіні,
Ўскіпае віроў завіруха:
Туды правалілася ў бездань дзяўчына,
І больш пра яе ані слуху!

# СВІЦЯЗЯНКА [1]

*Балада*

Што гэта за хлопец з поглядам ветлым
Поруч са стройнай дзяўчынай
Крочыць павольна пад месяцам светлым
Берагам Свіцязі сіняй?

Хлопцу яна прапануе маліну,
Кветкі юнак ёй збірае.
Мусіць, той хлопец кахае дзяўчыну,
Хлопца дзяўчына кахае.

Месца іх стрэч — ясакар таямнічы,
Што шалясціць каля гаю.
Хлопец — тутэйшых лясоў паляўнічы,
Дзеўчына хто? Я не знаю.

Хто аб красуні даведацца прагне,
След не знаходзіць дзявочы:
То яна кветкай узыдзе на багне,
То знікне іскрай уночы.

«Мне раскажы, дарагая дзяўчына,
Што ад мяне ўсё хаваеш?
Скуль ты прыходзіш нязнанай
сцяжынай?
Дзе свой прытулак ты маеш?

---

[1] Ёсць чуткі, што на берагах Свіцязі з'яўляюцца ундзіны, або вадзяныя німфы, якіх народ называе свіцязянкамі.— *Заўвага аўтара.*

Лета мінула, няўжо ў непагоду,
Ноччу асенняй, бяззорнай,
Трэба чакаць мне каханай прыходу
Тут, у глушы прыазёрнай?

Ты быццам сарна мільгаеш лясная,
Зданню блукаеш начною,
Лепей застанься з тым, хто кахае,
Лепей застанься са мною!

Блізка адгэтуль стаіць мая хатка,
Вунь за ляшчынай разгатай,
Досыць там хлеба і мёду ёсць кадка,
Ёсць там дзічыны багата».

«Тата казаў мне, што словы мужчыны
Не заслугоўваюць веры,
Бо хоць у словах і спеў салаўіны,
Ды ў сэрцы ліса намеры.

Злога падману я вельмі баюся,
Здрады каварнай, мой дружа...
Можа, я к просьбе тваёй і схілюся,
Толькі ці любіш ты дужа?»

Хлопец укленчыў, пры месячным ззянні
Дзеўчыне ён прысягае
Пеклам і раем у вечным каханні.
Толькі ці слова стрымае?

«Моцна трымай яго, гэту параду
Помні заўсёды, мой мілы:
Тут пакаранне чакае за здраду
І там, дзе холад магілы».

Гэтак сказаўшы, рукою здалёку
Дзеўка махнула і знікла
Дзесь на балонні пустэльным у змроку,
Сцежкай спяшаючы звыклай.

Кінуўся ўслед ён у дзікую нетру,
Марна шукае і кліча:
Знікла, як подых раптоўнага ветру,
Блудзіць адзін паляўнічы.

Сам ён блукае дарожкай глухою.
Гразкаю стала сцяжынка.
Ціха кругом, захрусціць пад нагою
Часам сухая галінка.

К возеру выйшаў юнак на прылессе,
Даль аглядае тужліва.
Раптам шум ветру пранёсся па лесе,
Воды ўскіпелі бурліва.

О нечуваная з'ява! Ніколі
Гэта не бачылі вочы.
З хваляў красуня ўсплывае паволі,
Стан выпрамляе дзявочы.

Твар яе — белая ружа нібыта,
Што акрапілі расою.
Лёгкай тканінаю постаць абвіта,
Быццам празрыстай смугою.

«Хлопец прыгожы, адважны мой віцязь,
— Чуецца голас дзявочы, —
Што ты блукаеш, дзе пеніцца Свіцязь,
Сумны, задумлівы ўночы?

Дзікай спакусніцай прычараваны,
Боль адчуваеш ты сэрца,
Блудзіш, пакінуты і ашуканы,
Дзеўчына ж недзе смяецца!

Хіба патрэбна блукаць тут з журбою
Аж да праменняў світальных?
Лепей, юнача, мы будзем з табою
Плаваць у водах крыштальных.

Можа, ты ластаўкай хочаш імклівай
Спрытна над плёсамі віцца
Ці тут, у глыбінях, рыбкай шчаслівай
Разам са мной весяліцца?

Дзень праляціць у гульні бесклапотнай,
Выглянуць зоры начныя,
Ты на лілейнай пасцелі пяшчотнай
Сны будзеш сніць залатыя».

І лебядзіныя бліснулі грудзі...
Погляд адводзіць хлапчына, —
«Добра са мною, каханы мой, будзе», —
Зноў яго кліча дзяўчына.

То яна лёгка ўздымаецца ўгору,
Ззяе вясёлкай праменнай,
То, рассякаючы плёсаў прастору,
Срэбнаю пырскае пенай.

Хлопец падбег, але стаў нерашучы:
Хоча ён к ёй — і не хоча;

Коціцца хваля тым часам да кручы,
Злёгеньку ногі ласкоча.

Хваля ласкоча і плешча дрымотна,
Сэрца так б'ецца чулліва,
Быццам хлапцу прыгажуня пяшчотна
Цісне руку сарамліва.

Хлопец забыў аб каханай дзяўчыне,
Слоў ён не помніць прысягі —
Мкнецца аслеплы на згубу ў глыбіні,
Повен дзівоснай ён прагі.

Мкнецца — глядзіць ён, глядзіць ён і мкнецца,
Быстрай падхоплены хваляй...
Бераг далёка за ім астаецца,
Далей нясе яго, далей.

Ён ужо рукі красуні сціскае,
З ёй мілавацца ахвочы,
Вуснамі вуснаў ружовых шукае,
Гледзячы ў ясныя вочы.

Ветрык раптоўна на іх налятае,
Рве ён з туману заслону...
Хлопец пазнаў — гэта ж дзеўчына тая,
Звязан з ёй клятвай да скону.

«Клятву забыў ты, забыў і параду,
Помніш, казала я — мілы,
Тут пакаранне чакае за здраду
І там, дзе холад магілы.

Дзе табе плысці па роўнядзі воднай,
Плёскаць, як рыбка, за вірам!
Цела засыпле зямлёю халоднай,
Вочы юнацкія — жвірам,

Грэшнай душы тваёй страшная кара —
Тысячу год хай мучэнне
Церпіць пякельнае ля ясакара
І не знаходзіць збавення».

Чуе юнак, паглядае нясмела,
Вочы агорнуты сумам,
Бура сярдзіта ізноў наляцела,
Хвалі ўздымаюцца з шумам.

Пашчу сваю раскрывае прадонне,
Кружыцца злосна віхура,
Дзеўчына з хлопцам у бездані тоне,
Вецер галосіць панура.

Воды дагэтуль хвалююцца ў пене,
Грозна плюскочуць няспынна,
Ў месячным ззянні мільгаюць два цені—
Гэта юнак і дзяўчына.

Скача дзяўчына над плёсам крынічным.
Енчыць хлапец каля гаю.
Хто ён? Калісьці тут быў паляўнічым.
Дзеўчына хто? Я не знаю.

# РЫБКА

З палаца, з-пад пушчы самай
Выбегла ў смутку дзяўчына
З распушчанымі валасамі,
З заплаканымі вачыма.

Прыбегла ў канец лугавіны,
Дзе возера рэчку страчае,
Заломвае рукі дзяўчына,
Галосіць дзяўчына ў адчаі:

«О вы, падуладныя водам,
Сёстры мае Свіцязянкі,
Слухайце голас нягоды
Здраджанае каханкі.

Кахала так шчыра пана,
Ён кляўся весці да шлюбу.
Князёўну бярэ нечакана,
Крысю пакінуў на згубу.

Хай млеюць сабе ў асалодзе,
З ёй можа распуснік кахацца,
Хай толькі сюды не прыходзіць
З няшчасця майго насміхацца.

Ці ж для забытай каханкі
Пачнецца жыццё спачатку?
Прыміце мяне, Свіцязянкі!
Ды толькі дзіцятка... Дзіцятка!»

Гаротная горка плача,
Хавае вочы ў далоні
І з берага ў хвалі скача
І ў быстрай знікае тоні.

Сп'янелы ад весялосці,
Палац пачынае хістацца.
Балююць прыезджыя госці —
Музыка, вэрхал і танцы.

Балююць сабе на выгодзе.
Ды чуецца плач дзіцячы —
Слуга верны з лесу выходзіць,
Малога нясе, небарача.

К вадзе прыспешвае крокі,
Дзе густа лаза ўрадзіла
І ўздоўж пакручастай затокі
Плечы рацэ акрыла.

У зацені стаў пакорна
Ды плача: «О гора мне, Крыся!
Ну хто ж дзіцятка пакорміць?
Ах! Дзе ты, Крыся, адкрыйся!»

Адказвае голас нясмела:
«На дне ляжу, маладая.
Ззалела ад холаду цела,
Мне вочы жвір выядае.

Па вострых каменьчыках мушу
Плысці за хваляй штодзённай.
Ем я ракушак, мушак,
Расой запіваю сцюдзёнай.

Слуга зноў стаіць пакорна
Ды плача: «О гора мне, Крыся!
Ну хто ж дзіцятка пакорміць?
Ах! Дзе ты, Крыся, адкрыйся?»

Што гэта ў азёрным лёху?
Ад гора ці ад дакору
Вада скаланулася злёгку
І рыбка падскочыла ўгору.

Як плітка пляскатым бокам
Зразае хвалю малую,
Так наша рыбка падскокам
Мокрую роўнядзь цалуе.

Вяслуе пёркамі лоўка
Ля берага недалёчка,
Як дробны напарстак, галоўка,
Як дробная пацерка, вочка.

Адкіне луску — тужліва
Гляне вачыма дзяўчыны,
І выплывуць косы гулліва,
Акрыюць стан лебядзіны.

Твар з ружай зраўняецца хіба.
Як райскія яблычкі, грудзі.

Раптоўна дзяўчына-рыба
Знікае ў надрэчным хлудзе.

На рукі бярэ дзіцятка
І да грудзей яго туліць:
«Люлі, маё немаўлятка,
Люлі, маленькі, люлі».

Калі малое змаўкае,
Кош пакідае на голлі,
І зноў сваё цела сціскае,
Звужае галоўку паволі.

Пакрыецца зноў лускою,
Маланкамі жабры адскочаць,
Нырне — адно над ракою
Бурбалкі варам клякочуць.

І так увечар і ўранку,
Як стане слуга ў закутку,
Выплыве ўраз Свіцязянка,
Каб пакарміць малютку.

Ці вечар рана заняўся?
Што ж ціха на сенажаці?
Час звычны мінуў, а няма ўсё
Ані слугі, ні дзіцяці.

Зараз прыйсці не можа,
Мусіў слуга схавацца —
Пан выйшаў з жонкай прыгожай
Над рэчкаю прагуляцца.

Вярнуўся, чакае цярпліва
За ніцым кустом са страхам,
Чакае, чакае — і дзіва:
Ніхто не вярнуўся тым шляхам.

Устаў і зірнуў з-пад далоні
У роспачы і здзіўленні.
Дзень ціха сканаў. На гоні
Апалі шэрыя цені.

Счакаў і заход трывожна.
Як ноч запаліла зоры,
Падаўся к вадзе асцярожна
І сочыць вачыма ў зморы.

Забілася сэрца гулка.
Ці сіла пекла, ці цуды?
Там, дзе цякла рачулка,
Равы, жаўтапесу груды.

Убранне параскідана
На беразе між густалоззя.
Ні пані няма, ні пана —
І следу не засталося.

Адно выдаецца з затокі
Кавалак каменю белы,
І ў цемры халодна-далёкі,
Нагадвае дзіўна два целы.

Слуга непрытомны не знае,
Што гэта. Не бачыў ніколі.
Мінула гадзіна, другая,
Пакуль слова вымавіць здолеў.

«Крысю, о Крысю!» — гукае,
Адказвае рэха: «Крысю».
Наўкол цішыня цяжкая
І роў туманом акрыўся.

А пот залівае вочы,
На камень глядзіць анямела,
Кіўнуў галавою тройчы,
Нібыта сказаў: зразумела.

На рукі бярэ малога,
Рагоча з вар'яцкай усмешкай,
Шле пацеры пану богу,
Вяртаецца ў двор паспешна.

# КУРГАНОК МАРЫЛІ

*Раманс* [1]

Чужы чалавек, дзяўчына, Ясь, маці, сяброўка.

Чужы чалавек

Над Нёманам пры даліне,
Там, на зялёнай раўніне,
Што за курган невялікі?
Навокал маліннік дзікі,
Цярноўнік, а ўгору трошкі —
Рамон, крапіва і валошкі,
Яшчэ вышэй — буйныя травы,
Над імі раскінула шаты
Чаромха, прыгожае дрэва.
Туды вядуць тры дарожкі:
Адна з іх направа,
Другая налева,
А трэцяя сцежка — ад хаты.
Ганю я плыты, спяваю,
На курганок пазіраю.
Што за курган-сіраціна? —
Пытаю ў цябе, дзяўчына.

Дзяўчына

Кожны тут ведае, браце,
Уся наша вёска ў даліне:
Марыля жыла ў той хаце,

---

[1] Задума ўзята з народнай песні.— *Заўвага аўтара.*

Цяпер яна ў дамавіне.
Справа цераз лужочак
След жаніха дарагога,
А гэта вось матчын слядочок,
А гэта — сяброўкі дарога.
Дагарае ранняя зорка,
Зараз прыйдуць яны да ўзгорка,
Стань там за кучаю лому,
Будзеш сведкам іхняй нядолі.
Глянь, ідзе яе мілы дружочак
На магілу, на жоўты пясочак,
Глянь, маці выходзіць з дому,
А сяброўка нясе вяночак.
Ідуць яны ціха, паволі
І плачуць горка.

## Ясь

Марыля, любы мой квеце,
Адзін я, адзін на свеце!
Яшчэ ж мы не мелі спаткання,
Яшчэ ж не пазналі кахання.
Марыля, сонейка свеціць,
Чакае цябе твой дружочак,
А ты не расплюшчваеш вочак.
Можа, гневаешся на мяне ты?
Марыля, зоранька, дзе ты?
Марыля мая дарагая!..
Не, не праспала ты ранку,
Любіш ты беднага Янку,
Але ж ты ляжыш нежывая,
Давіць грудзі зямля сырая,
Ты пакінула нас маладая,

Хоць бы слова сказала каханку.
Добра спаў я раней, цешыў я свае
ночы
Тым, што заўтра пабачу мілы
твар твой дзявочы,
Твае ясныя вочы.
Сну няма мне, і гору дзе знайсці тыя
лекі?
Над магілай дачаснаю сплюшчу
павекі,
Можа, бог дасць, навекі.
Гаспадарлівы быў я, цярплівы,
Бацька мной ганарыўся.
Быў мой бацька шчаслівы,
А цяпер занудзіўся:
Сын ад дому адбіўся.
Хто ж цяпер старому паможа?
Прападай наш дастатак!
Хай ваўкі павыдушваюць статак,
Хай гніюць і сена, і збожжа!
Марылі няма. Ах, мой божа!
Дае мне мой бацька грошы,
Дае гарнітур харошы,
Каб узяў гаспадыню ў хату.
Ставіць чарку гарэлкі свату...
Няма, няма Марылі!
Сваты не ўгаварылі.
Не рад ні вясне я, ні лету.
Даруй мне, даруй мне, тата!
Пайду адсюль на край свету,
Спазнаюся з доляй салдата,
Хачу, каб мяне забілі.
Няма, няма Марылі!

## Маці

Чаму ж я не ўстала рана?
Павыходзілі ў поле людзі.
Няма Марылі каханай,
Ніхто мяне не пабудзіць.
Цалюткую ноч я не спала,
Заснула, калі ўжо світала.
Сымон мой у полі працуе,
Падняўся з першай расою,
Не будзіў ён мяне, шкадуе,
Не снедаўшы выйшаў з касою.
Марыля, Марыля, косіць твой татка,
А [redacted] на магіле тваёй, дзіцятка!
Куды я пайду, да каго прытулюся?
Твой татка галодны косіць,
І абеду ніхто не прыносіць,—
Як успомню, слязамі зальюся.
А былі ж мы заўсёды пры хлебе,
А жылі ж мы з табой як у небе.
У нас і вечарынкі,
Збіраліся хлопцы, дзеўкі,
Спраўлялі дажынкі,
Гулялі дасеўкі.
Без цябе пакрывіліся сенцы,
Павуцінай зatканы акенцы,
Двор травой зарастае,
Хто ні йдзе, той мінае.
Пакінула доля нас, людзі забылі.
Ах, мой божа, няма Марылі!

## Сяброўка

Бывала, мы тут, над ракою,
Ад самага рання
Размаўлялі з табою
Пра наша каханне.
Разгараецца неба прыгожа,
А Марылька не бачыць. Мой божа!
Я ж знала твае ўсе сакрэты,
Шчырай дружбай былі мы сагрэты,
Што ж цяпер не даверышся мне ты?
Ты сышла ў красе маладосці,
Што як сонца над полем,
Без цябе няма весялосці,
А боль застаецца болем.

## Чужы чалавек

Уздыхнуў чужынец глыбока,
Скупую выраніў слёзку
І падаўся з плытамі далёка,
Мінаючы вёску.

# СЯБРАМ

*пасылаючы ім баладу «Люблю я»*

Поўнач, раз, два, тры... даносяцца ўдары,
Дальнім сціхаючы рэхам.
Вецер шуміць, гоніць нізкія хмары,
Псы дзесь заходзяцца брэхам.

Свечка ў ліхтарыку тае і тае,
Бляск свой змяняючы шпарка.
То ападае агонь, то ўзлятае,
Гасне і бліскае ярка.

Страшна! — Не йшлі б гэтак нудна гадзіны,
Ласкі б найболей сардэчнай;
Добрых хвілін шмат нясуць успаміны!
Прэч... гэта знікла навечна.

Шчасце цяпер мне ў той кніжцы здаецца,
Кніга абрыдла — кідаю;
Думка зноў к любым і родным імкнецца,
Мару, пра ўсё забываю.

Часам салодка я так летуценю
То аб каханай, то браце;
Раптам ускочу і ўласнага ценю
Бачу мільганне па хаце.

Лепей дастану пяро ў цішыні я,
Можа, пачну гэтай ноччу
Верш свой для вас я, сябры дарагія,
Толькі не знаю — ці скончу.

Дасць мо ўспамін аб вясне, што мінула,
Вершу зімоваму крыллі;
Я аб каханні і страхах прачула
Буду пісаць і Марылі.

Пэндзлем імя сваё ўславіць хто хоча,
Піша з яе хай партрэты,
Рыфмай бяссмертнай звініце ахвоча,
Слаўце Марылю, паэты.

Ясна мне ўсё, ды пацехі шукаю
Толькі сабе, а не славы;
Вам раскажу лепш, калі прыгадаю,
Я пра былыя забавы.

Прагна кахання салодкія словы
Ў сэрцы Марыля хавала.
Сто раз «кахаю» казалі дармо вы:
Нават «люблю» не сказала.

Вось чаму ў Руце [1], у поўначы хвілі,
Сну калі людзі ўсе рады,
Нанач чытаў я нярэдка Марылі
Строфы такія балады:

---

[1] *Рута* — мясцовасць каля Навагрудка.

# ЛЮБЛЮ Я

*Балада* [1]

Бачыш, Марыля, ля самага гаю
Вербы ўзнялі свае шаты,
Рэчка віецца далінаю з краю,
Мосцік над рэчкай гарбаты.

Нейкай царквы, глянь, старыя руіны,
Сцены званіцы пахілай,
Соваў там гнёзды, навокал маліны
Зараснік, побач магілы.

Чорт тут сядзеў ці з заклятай душою
Грэшнік, бо гэтай дарогай,—
Кажуць старыя,— паўночнай парою
Кожны праходзіў з трывогай.

Поўначчу хмарнай успыхнуць зарніцы,
Тая царква адамкнецца,
Самі зазвоняць званы на званіцы,
Нехта ў кустах адгукнецца.

Часам успыхне агеньчык журботны,
Ледзь асвятляе руіны,
Часам пачуецца грукат грымотны,
Здані ўстаюць з дамавіны.

---

[1] Балада гэтая з'яўляецца пераказам вясковай песні.— *Заўвага аўтара.*

Труп безгаловы там поўзаў уночы,
То галава, ды без цела,
Вусны раскрыты, расплюснуты вочы,
Полымя ў іх зіхацела.

Выбежыць воўк, раптам крылы раскіне,
Стане арлом ён вялікім.
Толькі скажы яму: «Згінь!» — і ён згіне
З рогатам жудасным, дзікім.

Кожны, хто ездзіў, ведаў пагрозы
Гэтай праклятай дарогі:
Дышаль там зломіш, абернеш калёсы,
Конь сабе вывіхне ногі.

Дзеда Андрэя пужалі пачвары,
Мне ён рабіў засцярогі;
З чорта смяяўся, не верыў я ў чары,
Той не баяўся дарогі.

Ехаў да Руты аднойчы я позна,
Коні спыніліся штосьці,
Фурман дарэмна крычыць на іх грозна,
Ляскае пугай на мосце.

Раптам, бы чорт зазірнуў ім у вочы,
Рвуцца, парвалася збруя.
«У полі застацца самому і ўночы,—
Гэта,— прамовіў,— люблю я».

Толькі я скончыў, як дзеўчына ў белым
З хваляў плыве серабрыстых,
З мёртвым абліччам яна скамянелым,
Скроні ў праменнях агністых.

Сэрца ад страху спыніцца гатова,
Паў на зямлю я сырую,
Крыкнуў: «Хай славіцца імя Хрыстова!»
«Ва векі вякоў!» — Я чую.

«Кім бы ні быў ты, табе, чалавеку,
Што ўратаваў небараку,
Шчасця жадаю і доўгага веку,
Шлю я ад сэрца падзяку.

Бачыш дзяўчыны душу бессардэчнай,
Зараз спакой свой знайду я:
Грэшніцу збавіў ад мукі ты вечнай
Слоўкам адзіным: люблю я!

Покуль сузор'ямі свеціцца неба,
Пеўні яшчэ не спявалі,
Слухай расказ мой, табе яго трэба
Ўсім расказаць тут, каб зналі.

Колісь жыла я шчаслівa на свеце,
Звалі Марыляй, мой тата
Самы вялікі меў чын у павеце,
Быў ён мажны, жыў багата.

Клопат тады быў адзін у старога —
Выбраць мне добрага мужа.
Заўжды было жаніхоў у нас многа:
Вабіў пасаг іх мой дужа.

Мноства іх марна вакол уздыхала,
Гэта было мне прыемна,
Я жаніхамі тады пагарджала,
Следам хадзілі дарэмна.

Быў там і Юзік як весняе ранне,
Юны, прыгожы, цнатлівы.
Слоў у мяне не прасіў ён кахання,
Хоць сам кахаў, нешчаслівы.

Плача і плача, з тугою вялікай
Часам у вочы мне гляне.
Больна яму, а я з радасцю дзікай
Бачу, як сохне ён, вяне.

Кажа: «Пайду!» — «Што ж, ідзі!» — Адказала.
Хлопца любоў загубіла;
Скора матуля яго пахавала,
Бачыш — над рэчкай магіла.

Стала жыццё з таго часу нялюба,
Позняе мучыць сумленне;
Больш не вярнуць цябе, страшная згуба.
Дзе ж ад пакуты збавенне?

Раз неяк позна прыйшла я дадому,
Ґрукат пачуўся са свістам,
Юзік з'явіўся між гулу і грому,
Прывідам выплыў агністым.

Кінуў мяне ў пекла на пакаранне,
У рэкі смалы агнявыя,
Там сярод стогнаў, зубоў скрыгатання
Словы я ўчула такія:

«Знаеш ты бога няўхільную волю —
З мужа зрабіў род дзявочы

Ён, каб аздобіць мужчынскую долю,
Цешыць мужчынскія вочы.

Сэрца ты быццам каменнае мела,
Мольбаў было табе мала,
Ветла ні разу ты не паглядзела,
Слова любві не сказала.

Ты за суровасць загубную гэту
Муку цярпець будзеш злую,
Покуль мужчына табе з таго свету
Ўголас не скажа: «Люблю я!»

Юзік калісьці прасіў таго слова,
Слёзы ліў шчодра ён, бедны,
Страхамі, а не слязою ці мовай,
Прывід папросіць твой бледны».

Скончыў, схапілі мяне злыя духі,
Сто год мінула сягоння.
Мука мне ўдзень ад пякельнай задухі,
Ноччу выходжу з прадоння.

Заўжды ля Юзя магілы блукаю,
Небу й зямлі я абрыдла,
Ўсё падарожных у змроку пужаю,
Прывід паўночы — страшыдла.

Зверне са сцежкі за мной падарожны,
Ў багне каня загублю я,
Лае заўсёды й кляне мяне кожны.
Першы сказаў ты: люблю я!

Добра зрабіў і за гэта пазнаеш
Лёс ад мяне ты свой, скора
Стрэнеш Марылю, яе пакахаеш...»
Певень запеў тут на гора.

Глянула радасна ў вочы і шпарка
Ўгору ўзнімаецца, тае,
Быццам вясенняя лёгкая хмарка,
Што вецярок раздзімае.

Бачу, воз цэлы і цэлая збруя,
Страхі ўсе зніклі начныя;
Тут прачытаць за ўсіх грэшных прашу я
Тройчы «Святая Марыя».

# ПАНІ ТВАРДОЎСКАЯ

*Балада*

П'юць, гуляюць, люлькі паляць,
Гульні, танцы і сваволле,
Ледзь карчмы той не разваляць:
Ха-ха! Хі-хі! Гэй жа! Голя!

Пан Твардоўскі [1] ўзяўся ў бокі,
Каля стола атаманіць:
— Шпар, панове! Свет шырокі! —
І чаруе, і туманіць.

Ён жаўнеру, што граў зуха
І да ўсіх у бойку пяўся,
Свіснуў шабляй каля вуха —
І з жаўнера заяц стаўся.

На юрыста з трыбуналу,
Што смактаў мядок злацісты,
Бразнуў капшуком памалу —
Шчанюком зрабіў юрыста.

Пстрыкнуў тройчы ў нос шаўцовы,
Лейку ён прыставіў лоўка,
З ілба чыстай, крышталёвай
Бочку нацадзіў жытнёўкі.

---

[1] *Твардоўскі* — герой распаўсюджанай сярод славянскіх народаў легенды пра чалавека, які прадаў душу чорту, каб потым добра пагуляць.

Піць пачаў, ды чуе: ціхі
Шум на дне у кубку ўзняўся.
Заглядае: — Што за ліха?
Ты адкуль, кумок, узяўся?

Чорцік там на дне таіўся,
Нібы немец,— куцаполы.
Грамадзе ён пакланіўся,
Скінуў брыль свой і да долу

Скочыў з кубка на падлогу.
Хоп — расце на тры аршыны:
Нос даўгі, кручком, а ногі
Ў кіпцюрах у ястрабіных.

— А, Твардоўскі! Як гуляеш? —
Запытаўся ветла дужа.—
Што? Хіба мяне не знаеш?
Мефістофель я, мой дружа.

Мне пад Лысаю гарою
Ты прадаў душу і сэрца
І умову склаў са мною,
Што усе павінны чэрці

Быць прыслугамі тваімі.
А праз пару год, умова,
Будзеш ты чакаць у Рыме,
Каб там здацца нам без слова.

Але ўжо сем год мінула,
І выходзіць так нягожа:

Пра цябе ўсё пекла чула,
А пабачыць і не можа.

Толькі злосці не таім мы,
Час прыйшоў доўгачаканы:
Вось — карчма, завецца «Рымам»,
Тут і арыштую пана!

Пан Твардоўскі — да парога,
Чуючы dictum acerbum; [1]
Чорт загарадзіў дарогу:
— Дзе ж тваё nobile verbum? [2]

Што тут зробіш? Вось папаўся,
Разлічыцца давядзецца.
Ды Твардоўскі не спужаўся
І за хітрыкі бярэцца.

— Паглядзі ва ўмову, браце,
Так гаворыць тая ўмова,
Што мяне як будзеш браці —
Здамся я табе без слова,

Але ж глянь у пункт дзесяты:
Маю права я, сардэчны,
Тры табе аддаць загады,
Каб ты выканаў бясспрэчна.

Вось, па першаму загаду,
На малюнку конік, бачыш?

---

[1] Dictum acerbum — непрыемныя словы *(лац.)*.
[2] Nobile verbum — слова гонару *(лац.)*.

Хай жа на яго я сяду —
Хай па полі ён паскача.

Ды з пяску скруці мне пугу,
Каб каня меў чым пагнаць я.
Пабудуй мне дом за лугам,
Каб у ім мог начаваць я.

А з арэхавых зярнятаў
Сцены мне зрабі без браку,
А страху з барод кудлатых
Ты змацуй насеннем маку.

Гэты цвік вазьмі, хлапчына,
Каб быў меркай табе вернай:
Тры такіх забіць павінен
Ты у макавае зерне...

Чорт хутчэй каня сядлае,
Даглядае яго, поіць,
Пугу ён з пяску звівае,—
Конь на месцы аж не ўстоіць.

Сеў Твардоўскі на гнядога,
Рушыў то ступой, то скокам,
Выязджае на дарогу —
Зірк — будынак перад вокам.

— Ну і сябра, вось дык праца!
Што ж, канчай цяпер з другою:
Трэба ў місцы пакупацца
Са свянцонаю вадою.

Мефістофеля аж трусіць,
Пот яго халодны крые,
Ды пан кажа, служка мусіць,—
Лезе ў воду ён па шыю.

З міскі выскачыў, як п'яны,
Пырснуў: «Пырсь»,— сказаў лукава:
— Зроблена! Ты наш, мой пане,
Бо няма цяжэйшай справы.

— Пачакай ты, спрытны дужа!
(Зараз знікне чмут бясоўскі)
Баба вунь, знаёмся, дружа,
З жоначкай маёй, Твардоўскай.

Памяняцца я жадаю
Хоць на год адзін з табою:
Я — у пекле пагуляю,
Ты — пабудзь, як з жонкай, з ёю.

Ёй на вернасць дай ты слова,
На павагу і пашану.
А не споўніш гэту ўмову —
Што ж! Я зноўку вольным стану.

Чорт к яму схіліўся вухам,
На кабету кінуў вокам,
Нібы стаў уважна слухаць,
Ды да клямкі бокам, бокам.

Пан Твардоўскі — хоп за шкірку,
Затрымаць яго жадае.
Чорт жа— шмыг! —ў замок, у дзірку,
І дагэтуль уцякае.

# ТУКАЙ, АБО ВЫПРАБАВАННІ ДРУЖБЫ

*Балада ў чатырох частках*[1]

## I

«Паміраю — і не плачу,
І вы кіньце траціць сілу;
Мы ўсе ляжам у магілу —
Не вярнуць нам слёз гарачых.
Быў я панам соцень сёлаў,
Меў я слуг адборных світу.
Мае замкі навакола
Для гасцей былі адкрыты.
Што багацце чалавеку?
Замкі што, магутнасць, імя?
О нікчэмны, марны дыме! —
Паміраю ў сіле веку!
Марыў я ў тамах змястоўных
Асягнуць багацце ведаў.
Шмат чужых краінаў зведаў —
І нарэшце стаў вучоным.
Што вучонасць чалавеку?
Розум што? Што слава, імя?
О нікчэмны, марны дыме! —
Паміраю ў сіле веку!

---

[1] З чатырох частак балады, задуманых аўтарам, напісаны былі толькі дзве. Паводле задумы Міцкевіча, трэцюю і чацвёртую часткі дапісаў яго сябар А. Адынец.

У сумленні жыць я марыў,
Быў набожным я без меры;
Шанаваў законы веры
І касцёлу нёс ахвяры.
Што набожнасць чалавеку?
Што святая вера, імя?
О нікчэмны, марны дыме! —
Паміраю ў сіле веку!
Ці мяне, тварэц, не чуеш?
Ты мне скарбы дорыш дбала,
Дык чаму пажыць даў мала?
Чым за ласку адплачу я?
Прыгажуні чарнабровай
Падарыў нашто пяшчоты?
Не злічу сяброў турботы,—
І бывайце ўсе здаровы!»

Так, відаць, па волі божай
Тукай на смяротным ложы
Пакідаў жыццё на векі,—
І самкнуў свае павекі.

Раптам гром грыміць над дахам,
Задрыжалі ўсе харомы...
Нейкі старац незнаёмы
Апынуўся ў самым гмаху.
Сівізна пакрыла скроні,
Барада аж па калені.
Сам у белым ён адзенні
На кіі паклаў далоні.
«Тукай!» — клікнуў, з ложка цягне,
За сабою бегчы кажа...
Ўжо мінулі вал і стражу

І пакрочылі па багне.
Ноч навісла над зямлёю...
Месяц з серабрыстым тварам
То спяшыць насустрач хмарам,
То панікне за імглою.
А яны ўсё крочаць далей.
Над балотам дождж імгліцца...
Прамінулі ўжо Гніліцу
І Калдычаўскія хвалі.
Дзе дрыгвы купчастай шыры
Абступіў гушчар сасновы,
На гары відаць Жарновай [1]
Чуб, насунуты са жвіру.
На магіле ў гэту пору
Старац кленкнуў, вокам бліснуў
І далоні ўзняў угору,
Тройчы крыкнуў, тройчы свіснуў.
— «Тукай, глянь: вунь там на багне
У хацінцы за дарогай
Ёсць мудрэц Палель — ён прагне
Мудрацу даць дапамогу.
Знаю, што ў жыццёвай школе
Ты здабыў вучонасць дбала;
Знаю, што па божай волі
Пражывеш на свеце мала.
Ды палохацца зарана:
Ты пазнай мае турботы!
І жыві ты для каханай,
Для сяброў будзь несмяротны!

[1] Гніліца, Калдычава, Жарнова — лес, возера і гара каля Завосся ў Навагрудчыне, у родных мясцінах паэта.

Бо адзін я толькі знаю,
Як пасцігнуць вечнасць свету.
Для дваіх я права маю
Таямніцу выдаць гэту.
Падбяры сабе другога
Чалавека, у якога
Пры любым выпрабаванні
Можаш верыць ты з парукай.
Знойдзеш — несмяротным станеш.
А не знойдзеш — смерць і мукі!»
— «Прадказанне гэта, старча,
Павалокаю пакрыта.
Растлумач мне...» — «Растлумачу:
Чалавека падбяры ты!
Розум, сэрца хай рассудзяць.
Пра тваё кажу збавенне!
Верны ці няверны будзе,
Несмяротнасць ці знішчэнне!..
Да слугі давер'е маеш?..»
Адказаць бы Тукай рады,
Ды ці верыць — сам не знае,—
Сярод слуг нямала здрады.
— «Для каханкі мо ці жонкі?» —
— «Так...»—і змоўк, глядзіць задумна.
— «Так...» — і голас яго звонкі
Абарваўся раптам сумна.
— «Так, для жонкі... для каханай...»
І ён верыць і баіцца,
Каб усё ж не памыліцца,
Не сустрэць бы тут абману...
Што сказаць — і сам не знае,—
І нарэшце, ён змаўкае.
— «Згінь і стань ты невядомым

У абдымках страшных смерці!
Як не верыш ты нікому,
Дык навошта жыць на свеце?»
А ён думае, гадае:
«Жонцы? Другу?» — сам не знае.
Думае... Раптоўна хмары
Засланілі неба ўдалі...
Бліскавіца... Гром ударыў,
Ажно сцены задрыжалі.
Бор шуміць, зямля трасецца,
Лес гарыць, кіпіць балота,
І вада знікае ў рэчцы,
Нікнуць травы і чароты.
Сярод стуку, свісту, грому,
Ці па волі злой ці божай,
Тукай зноў на ўласным ложы
Паміж родных і знаёмых.
Раптам голас чуе знекуль:
«Не бывае чалавека,
Для якога ў кожны момант
Можна верыць, як самому».

## II

— «Ах, я маю друга, маю!» —
Кажа Тукай перад смерцю.
Бледнасць шчок яго знікае,
У вачах здароўе свеціць.
Тукай, вырваны з магілы,
Падхапіўся, стаў на ногі —
Ходзіць сам, без дапамогі, —
Дзе ўзяліся тыя сілы?

Бачыць ля падушкі ў зале
Ды з валовай скуры карты.
На іх чэрці тут, не жарты,
Лёсу тайну распісалі.
Ён з цікавасцю хапае,
Сеў, падпёрся і чытае:

«Маладзік узыдзе ночкай,
Ты ідзі аж да гаёчка,
Дзе каменне — з-пад камення
Белага нарві карэння!
Блізка будзеш ты ад смерці,
Дай пасекчыся на чвэрці.
Хай карэнняў зварäць белых,
Хай намасцяць часткі цела!
І тады ізноў зрасцешся,
Амаладжаным праснешся.
Будзеш так ад гэтых зёлак
Вечна дужым і вясёлым».
Там былі перасцярогі,
Галаву як секчы, ногі,
Дзе вады узяць для масці,
Колькі зёлак трэба класці.
А ў канцы у пару словах
Дадавалася умова:

«Калі часам хто захоча
Паказаць другому зелле,
Ці ўжыве яго ахвоча
Мо на іншым нейкім целе;
Ці ў патрэбную мо пору
Твайго цела не намасціць,—

Знай, цябе чакае гора,
Мукі пекла і няшчасці.
Калі ў смеласці ты пэўны,
Дай адказ нам знакам згоды.
Мефістофель для абмену
Прынясе трактат заўсёды.
Толькі не забудзь пра гэта!
Сцеражыся! Будзь умелым!
У Эрэбе ў шабас гучны
Падпісаў уласнаручна
Сам Люцыпар з таго свету
І заверыў Гадрамелах».

Тукай трохі раззлаваўся:
Гэткага не спадзяваўся...
Ён падпёр рукамі скроні,
Пальцам чухае ля носа,
На кантракт глядзіць зукоса,
То ў зямлю апусціць вочы,
Два разы нюхнуў табакі,
То на стол зірне, то збочыць,—
І пергаменту ён знакі
Зноў узвесіў на далоні.
Зноў іх пільна разглядае,
Узіраецца, чытае...
Раз яшчэ узважыў — кінуў,
Кулаком у стол тут грымнуў,
Азірнуўся па святліцы
І паклаў руку на грудзі
І сказаў: «Няхай так будзе!»
А пасля ізноў садзіцца,
Зноў усхопіцца, блукае,
Сядзе зноў — і зірк на карты...

Хай ніхто яго не лае,
Бо няма з чарцямі жартаў!

Думае: «Ці жыць мне вечна,
Ці прадам для чорта душу».
Ды прамовіць — небяспечна,—
І маўчыць, губой не рушыць.

Вось адказу блізка тэрмін.
Тукаю з людзьмі журботна.
Ён у розуму майстэрні
Закрываецца самотны.
Свой трактат, пакуль пячаці
Не змясцілі на трактаце,
У ціска́х увагі строгай
Цісне, давіць да знямогі.
Злітак мыслі разнастайнай
У адзін ідзе плавільнік.
Там, бы воск, пад ціскам шчыльным
Награваецца і тае.
І экстракт выходзіць новы —
Выцякае прапанова.
Ён усё у прапанове
Перадумаў, абумовіў:
«Выкрутасаў гэтых ходы,
Што апісана тут дбала,
Ці іх мала ці нямала,
Ёсць траякае пароды:
Каб схіліць каго да здрады,
Трэба сілы ці парады —
Падарункамі спакусіць,
Напалохаць ці прымусіць.
Ці інакш — такая справа —

Да пагібелі дарога
Ёсць траякая: трывога,
І спакуса, і цікавасць.
Калі хто ў выпрабаванні
Не пагрузне ў гэтай твані,
Тады можна ўжо такому
Верыць, як сабе самому».
Са знаходкаю такою
Тукай лёгкаю хадою
Йдзе, пяра свайго шукае,
Пісьмо грэху укладае.
Але ўжо вакол сцямнела,
У чарніле штось засела.
Паліць свечкі дзве ў далоні,
Дзве чарніліцы напоўніў.
Ды баліць яму у локці,
А на пёрку — валасочак;
І спісаны ўвесь насочак;
Страсянуў, прыціснуў ногцем
І, на стол апёршы грудзі,
Напісаў: *«Няхай так будзе!»*
Думаў прозвішча прыкласці.
Ды пакуль ён *Т* выводзіў,
Гэтым разам на няшчасце
Думаў цэлай паўгадзіны;
Галавой ківаў бясчынна,—
І не пішацца, ды годзе!
Толькі каля *Т* ён шчыра
Кропкі вывеў... аж чатыры.
Ён не смее азірнуцца,
Толькі думае упарта...
Хай над ім не пасмяюцца,
Бо няма з чарцямі жартаў!

Але як ён стаў дзівіцца,
Калі *Б* у слове будзе
Зазвінела ў перагудзе,
Пачало скакаць, кружыцца
І расці — аж месца мала,
Нібы з цеста яно стала.
З яе ніжняй палавіны
Вырастаюць грудзі, рэбры,
З яе верхняе часціны —
Галава вылазіць цэбрам
З шыйкай тонкай, мураўінай,
І з бародкаю казлінай;
З адной конскаю нагою
І з курынаю другою.
Вокам ён глядзіць валовым
І драпежны ўвесь у профіль.
Гэта чорт быў адмысловы,
Гэта сам быў Мефістофель.

Тукай думае: «Хрысціцца
Ці прасіць гасця садзіцца?»
Раптам чорт яго ў хвіліну —
Хваць за палец за мязінец! —
Нож пад скуру пхнуў ахвоча
І ў крыві пярынку мочыць.
Намачыў, уткнуў у руку
І рукой сціскае, водзіць.
Як мінуў *У, К, А, Й*,— выходзіць
Не іначай — слова Тукай.
Свіснуў чорт — памчаўся рады.—
І шукай цяпер з ім ладу!

# ЛІЛЕІ

*Балада*[1]

Выпадак нечуваны —
Забіла пані пана;
Забіла і хавае
Ля ручая, ля гаю,
Лілеі там саджае,
Саджаючы, спявае:
«Расціце так высока,
Як пан ляжыць глыбока;
Як пан ляжыць глыбока,
Расціце так высока!»

Крывёй заліта пані,
Бяжыць праз луг, паляну,
Праз нетры баравыя,
Праз долы, горы, долы;
І цені ўсе начныя
Згушчаюцца наўкола.
Пугач крычыць за борам,
Ды каркае злы воран.

Бяжыць, дзе расахаты
Па-над крыніцай бук,

[1] З народнай песні.— *Заўвага аўтара.*

І стукае у хату
Пустэльніка: стук, стук!

«Хто там?» — стары пытае,
Ідзе з агнём, і пані,
Як прывід, улятае,
Галосячы, на ганак.

Твар, як хусціна, белы,
Страх у вачах, дрыжыць,
І вусны пасінелі:
«Муж... нежывы... ляжыць!»

«Ды бог з табой, жанчына!
Каго, скажы, шукаеш,
Чаго ліхой гадзінай
Адна ўначы блукаеш?»

«За лесам тут, за ставам,
Мой замак мураваны,
Муж разам з Баляславам
Пайшоў на кіяўлянаў.
За годам год мінае,
А ён усё не едзе;
Адна я, маладая,
Кругом мяне — суседзі.
Парушыла я слова.
Вярнуўся муж. За здраду
Кароль заўжды сурова
Карае без спагады.

Ды грэх я свой схавала!
Вось бачыш — нож і кроў!

Не прыйдзе муж дамоў.
Табе ж я ўсё сказала...
Парай мне, што рабіць,
Каб я малітву знала,—
Ратунку папрасіць!
Гатова на край свету
Ісці праз пекла, скалы,
Каб толькі ганьбу гэту
Ноч вечная схавала!»

Стары ў адказ: «Жанчына,
Цябе не грэх трывожыць,
Баішся кары, згінуць?
Ісці спакойна можаш,
Хай страх табе не сніцца!
Хто здрадзіць таямніцу?

Такая воля божжа,
Ўсё, што зрабіла скрыта,
Муж ведае, ды ён жа
Не выдасць, бо забіты».

Прысуд — па сэрцу пані.
Зноў праз лясы, паляны
Бяжыць яна дадому
Сцяжынаю знаёмай.
А дзеці каля брамы
Яе пытаюць: «Мама!
Скажы нам, дзе наш тата?» —
«Нябожчык? Дзе? Ваш тата?»
Што адказаць — не знае.
«Застаўся ён ля гаю,
Ён хутка завітае».

Чакаюць бацьку дзеці
І дзень, другі і трэці,
І тыдзень ўжо мінае;
Нарэшце забываюць.
Ды пані грэх не можа
Ніяк забыць. У сэрцы
І нудна, і трывожна,
Ніколі не смяецца,
Ніколі ёй не спіцца!
То, недзе, недалёка
Цяжкія чуе крокі,
То шорахі ў святліцы,
То рэха адзавецца:
«Я тут, ваш бацька, дзеці!»

Зноў дзень. Яна не можа
Знайсці спакою ў сэрцы.
І нудна, і трывожна.
Ніколі не смяецца!

«Глянь, Ганка, на дзядзінец!
Стук капытоў на мосце,
Дыміць, пыліць гасцінец;
Мо, гэта едуць госці?
Глянь, можа, ў ранні час
Хто завітаў да нас?»

«Я верхавых там бачу.
Іх коні ржуць і скачуць,
І шабель бляск люстраны
Відаць, хоць пыл густы.
Дык гэта ж едуць, пані,
Нябожчыка браты!»

«Дзень добры, гаспадыні!
Пашана і прывет!
А дзе наш брат?» — «Загінуў,
Пакінуў гэты свет».—
«Калі?» — «Даўно, больш
года
Няма яго з паходу».—
«Хлусня, не вер нікому!
Вайны даўно няма.
Яго ўжо хутка дома
Пабачыш ты сама».

Тут пані пабляднела,
Жахнулася, самлела,
Зрок непрытомным стаў,
З трывогаю пытае:
«Ці ж муж мой не сканаў?»
А толькі страх растаяў,
Прыкінулася, быццам
Ад шчасця ўсхвалявана:
«Дзе муж мой, дзе каханы,
Калі ж дамоў прымчыцца?»

«Ён ехаў перад намі,
Спяшаўся ў замак свой,
Каб нас прыняць з сябрамі,
Сустрэціся з табой.
Ён будзе дома скора.
На нейкім на раз'ездзе,
Сярод глухога бору,
Напэўна, збіўся недзе.
Хай пашукаюць людзі,
Ён скора дома будзе.

Паслалі слуг, шукалі,
Дзён некалькі чакалі,
Але дарма, з трывогай
Збіраюцца ў дарогу.

Выходзіць, просіць пані:
«Браткі мае, куды вы
Ў асенні час туманны,
Сцюдзёны і дажджлівы?
Яшчэ не ад'язджайце
І брата пачакайце!»

Чакаюць. Снег, зіма,
А брата ўсё няма.
Чакаюць, мо вясной
Іх збудуцца надзеі?
А брат ў зямлі сырой,
І белыя лілеі
Растуць над ім высока,
Як ён ляжыць глыбока.
Ужо вясна мінае,
Браты не ад'язджаюць.

Ім любы двор гасцінны,
Красуня-гаспадыня;
Хоць пра ад'езд гавораць,
Не думаюць пра зборы.
Так лета ўсё мінае,
І брата забываюць.

Ім любы двор гасцінны,
Красуня-гаспадыня,
З якою падружылі,

Якую палюбілі.
У кожнага у сэрцы
Надзея і трывога.
Жыць без яе — горш смерці,
А разам жыць — не могуць.
Удвух адна ў іх рана,
Удвух ідуць да пані.

«Паслухай, братавая, нас
І не крыўдуй дарэмна!
Мы толькі тут марнуем час,
Твой муж загінуў пэўна.
Сваёй красы ты не марнуй
І маладосці пашкадуй.
Бо ўжо не вернеш страты,
Вазьмі за брата брата!»

Што думалі, сказалі.
Іх сэрцы зайздрасць паліць,
Адзін — глядзіць варожа,
Другі — маўчаць не можа;
Ледзь злосць сваю стрымаюць,
Мячы ў руках сціскаюць.

І што ім адказаць,
І як — не знае пані.
Іх просіць пачакаць,
Сама ж хутчэй змярканнем
Бяжыць, дзе расахаты
Па-над крыніцай бук,
І стукае у хату
Пустэльніка: стук, стук!

Яму ўсё расказала,
Што ёй рабіць, спытала:

«Як памірыць іх мне?
Дваіх люблю, прызнацца.
З каторым — пад вянец,
З каторым — развітацца?
Дзяцей маленькіх маю,
І грошай ёсць багата,
Але ж, без мужа, знаю,
Ужо не той дастатак.
Ах, пэўна мне ніколі
Не быць замужняй болей!
Баюся божай кары,
Спакою я не знаю:
Ледзь сон мяне ахмарыць,
З дзвярэй замок злятае;
Схаплюся я і чую
Гром, шорах па кутках
І ў поўнач у глухую
Я бачу мерцвяка!
З нажом крывавым нізка
Над ложам ён сагнецца
І сыпле з вуснаў іскры,
І рве маё ён сэрца.
Ах, досыць розных страхаў,
Не жыць мне ў гэтым гмаху,
Не знаць дабра ніколі,
Не быць замужняй болей!»

«Дачка,— стары гаворыць,—
За грэх такое гора,
Пакайся, калі можаш,
Тады і бог паможа.

Я волю неба знаю,
Табе я абвяшчаю:
Хоць муж твой мёртвы спіць,
Магу я ўваскрасіць».

«Не, не, лепш не трывож!
Уваскрашаць не час!
Навекі востры нож,
Знай, разлучае нас!
Я заслужыла кару,
Перанясу я кару,
Каб толькі знікла здань!
Багацце ўсё раздам,
Пайду я ў манастыр,
У цёмны лес густы.
Не, не, лепш не трывож!
Уваскрашаць не час!
Навекі востры нож,
Знай, разлучае нас!»

Стары ўздыхнуў гаротна,
Слёз нават не стрымаў,
Прыкрыў свой твар маркотны
І рукі заламаў:
«Збірайся замуж, пані,
Ідзі, не бойся здані!
Памёршаму ніколі
Не ўстаць з-пад вечных меж,
Твой муж не прыйдзе болей,
Калі не пазавеш!»

«Братоў як памірыць?
Чыёй мне жонкай быць?»

«Ва ўсім даверся богу,
Пакажа ён дарогу.
Як толькі дзень настане,
У лес пашлі іх рана,
Хай кветак прынясуць,
Табе вянкі сплятуць.
І кожны з іх іначай
Хай свой вянок адзначыць
І ў блізкім храме божым
На алтары паложыць!
Вянок чый возьмеш, той
Муж і каханак твой».

Павесялела пані.
Вяселле хутка з мілым.
І ўжо не страх ёй здані,
Бо век пастанавіла
Забітага не зваць
І на'т не ўспамінаць.
Усцешылася пані,
Зноў праз лясы, паляны
Бяжыць сабе дадому
Сцяжынаю знаёмай.
Прыстане адпачыць
Ды зноў далей бяжыць.
Шуміць у лесе вецер,
Шуміць, а ёй здаецца,
Што нехта даганяе,
Што нехта шэпча ёй:
«Я тут, твой муж, з табой!»

Што ёй рабіць, не знае.
Прыстане, зноў бяжыць,
Змарылася, дрыжыць,

І страшна аглянуцца,
Бо стогны раздаюцца
І рэха ўслед за ёй:
«Я тут, твой муж, з табой!»
Ды хутка ўжо нядзеля,
Настаў і час вяселля.
Ледзь дзень заззяў на ўсходзе,
У лес браты выходзяць.
Вядуць дзяўчаты паню
Да шлюбу у касцёл,
Яна вянок духмяны
Бярэ, глядзіць наўкол,
Пытае ўсхвалявана:
«Вось мой вянок з лілей,
Скажыце ж мне хутчэй,
Чый ён, хто мой каханы?»

Прыбег старэйшы брат.
Смяецца, скача, рад,
Шчаслівы б'е ў далоні:
«Мая ты, мой вянок!
Я стужкаю чырвонай
Яго абвіў знарок.
Знак гэты бачу я!
Вянок мой, ты мая!»

«Хлусня! — другі крычыць,—
Хай кожны паглядзіць,
Дзе я лілеі рваў,
Дзе я вянок сплятаў.
Я рваў іх на кургане.
Я пакажу вам той
Курган сярод паляны»! —
«Вянок не твой, а мой!»

I сварка нарастае,
Брат брату не ўступае.
Ужо мячы звіняць,
Ужо ўступілі ў бой,
I толькі крык чуваць:
«Вянок мой!» — «Не, ён мой!»

Ды вецер у касцёле
Тут дзверы расчыніў
I свечкі пагасіў,
I нехта ў зброі, белы,
Знаёмаю хадой
Прыйшоў, і ўсе наўкола
Яго пачулі голас:
«Вянок не ваш, а мой!
Вянок з майго кургана,
I мне, ксёндз, шлюб давай
З няверпаю каханай!
Я, жонка, муж твой, знай!
Бяда, браты, і вам —
Я кветак не аддам!
Спыніце смертны бой!
Я брат ваш, я муж твой.
Мае вы, мой вянок,
Ідзём у вечны змрок!»

Тут сцены задрыжалі,
Зруб трэснуў па вуглах
I заваліўся дах,
Усё ў зямлю запала.
Адно на месцы тым
Растуць лілей кусты,
Растуць яны высока,
Як пан ляжаў глыбока.

## ДУДАР

*Раманс* [1]

Што за дзядок там, як голуб сівы,
З белай як снег барадою?
Дзеда пад рукі вядуць мяжою
Хлопчыкаў двое пачцівых.

Старац на ліры грае, спявае,
Хлопцы на дудачках з пёрак.
Хай нашай нівы ён не мінае,
Клічце сюды пад узгорак.

«Просім, старэнькі, к нам на гулянку,
Сёння дасеўкі святкуем.
Чым мы багаты, тым пачастуем,
І адпачнеш тут да ранку».

Старац згадзіўся, ўсім пакланіўся,
Сам сеў і хлопчыкі збоку.
Тут жа агонь быў непадалёку:
Сельскі народ весяліўся.

Пішчыкі свішчуць. Бубны, бразготкі,
Дровы трашчаць і палаюць.

[1] Задума з народнай песні.— *Заўвага аўтара.*

Скачуць дзяўчаты, п'юць мёд малодкі:
Свята вясны адзначаюць.

Пішчыкі сціхлі, сціхлі бразготкі,
Гучная змоўкла бяседа.
Бегам дзяўчаты, следам малодкі,
Слухаць сабраліся дзеда.

«Ходзіш ты, старча, полем-далінай,
Пэўна стаміўся з дарогі.
Добрай часінай, шчаснай хвілінай
К нам да цяпельца, убогі!

Будзь нашым госцем, старча ласкавы,
Трошкі пайграйце народу.
Можа, дазволіш даць табе стравы
Ці вып'еш чарачку мёду?

Ёсць у вас дудкі, ёсць ліра з корбай,
Знаеце музыкі ўсякай,
Пойдзеш адгэтуль з поўнаю торбай
І з нашай шчырай падзякай».

«Ну, стойце ж ціха, мілыя людзі!» —
Дзед у далоні папляскаў.
«Калі вы хочаце, музыка будзе.
А што ж зайграць вам?» — «Што ласка».

Ліру узяў ён і чарку ў руку,
Мёдам душу саграваe.
Хлопцы за дудкі, дзед пальцам стукнуў,
Ліру настроіў, спявае.

— Нёман мой, Нёман, родны мой краю:
Поле, лужочак, бярозкі.
Полем іду я, песні спяваю,
Гэтак ад вёскі да вёскі.

Нёман мой, Нёман, родны мой краю!
Песням маім людзі рады.
Я ж іду міма, слёзы ўціраю,
Бо не знаходжу спагады.

А хто адчуе, той загалосіць,
Белыя ручкі заломіць,
Разам са мною слёзку ўроніць,
Старца дахаты запросіць.

Раптам спыніўся, больш не спявае,
Пільна ўглядаюцца вочы.
Што за дзяўчына там маладая
З хлопцам стаіць на узбоччы?

З кветак прыгожых слаўны вяночак,
Бачыць, сплятае пастушка.
Ўзяў той вяночак яе дружочак,
Шэпча ёй дзякуй на вушка.

Чыстае сэрца, яснае вока,
Позірк апушчаны долу,
Думае нешта яна глыбока,
Падаюць кветкі з прыполу.

Нібы вясенняя рунь прарастала
І шалясцела паціху,
Так на грудзях яе хустка дрыжала,
Хоць і не чулася ўздыху.

А ў той хусцінцы жоўты лісточак
Ад невядомага дрэўца.
Слёзы, як росы, пырснулі з вочак,
Ліст адарваўся ад сэрца.

Топча дзяўчына жоўты лісточак,
Ліст нетутэйшы, далёкі.
Слёзы, як росы, сыплюцца з вочак,
Зачырваненіся шчокі.

Грае паволі старац-дударык,
А сам глядзіць на дзяўчыну,
Быццам чытае ў яе на твары
Тайную сэрца прычыну.

Зноў узяў ліру і збан паўнюткі,
Мёдам нутро саграваe,
Знак дае хлопцам, хлопцы за дудкі,
Ўдарыў па струнах, спявае:

«Для каго пляцеш вяночак
З руж, лілей і румянку?
Ой, шчаслівы твой дружочак,
Ты яму пляцеш вяночак,
Ты даеш яго каханку.
Чырвань шчочак, слёзы з вочак.
Ты яму пляцеш вяночак
З руж, лілей і румянку.

Аднаму даеш вяночак
З руж, лілей і румянку,
Дзе ж ранейшы твой дружочак,
Той, каму пляла вяночак?

Чырвань шчочак, слёзы з вочак —
Дар няшчаснаму каханку,
А шчасліваму — вяночак
З руж, лілеі і румянку [1]».

Дзівяцца людзі. Шэпт, пагалоскі,
Як тыя жытнія хвалі.
Песенька гэта з нашае вёскі,
Але спяваў хто, — не знали.

«Дзетачкі, ціха!» — Гоман спыніўся.
«Песня тутэйшая? — можа.
Я раскажу вам, дзе навучыўся
Песеньцы гэтай прыгожай.

Быў я, дзеткі, ў прыморскай акрузе,
Бачыў Крулевец праходам.
Вось прыплывае туды на струзе
Нейкі пастух з Літвы родам.

Сумны быў вельмі, што за прычына,
Не гаварыў ён нікому,
Ад землякоў адбіўся хлапчына
І не вярнуўся дадому.

Ці свеціць месяц, ці свецяць зоры
У ясную, ў цёмную ночку,
Бачыў я, ходзіць ён каля мора
Па надбярэжным пясочку.

---

[1] Гэтыя трыялеты ўзяты з вершаў Тамаша Зана.— *Заўвага аўтара.*

Альбо на шэрых скалах, пануры,
Стыў пад дажджамі і ветрам,
Думы свае давяраючы буры,
Перамаўляўся з паветрам.

Нейк аднойчы яго
Як і заўсёды, ён марыў,
Лютня са мною, песні я знаю,
Ў звонкія струны я ўдарыў.

Боль хоць і цяжкі, але прыемна
Не паддавацца абразам,
Сэрца адкрыў я, ён мне ўзаемна,
І мы заплакалі разам.

Моцная дружба была між намі,
Дружба пакрыўджаных лёсам,
Ён быў маўклівы, ўздыхне часамі,
Вочы узняўшы к нябёсам.

Толькі не справіўся ён з тугою,
Грызла, смактала вантробы.
Быў я таварышам, быў слугою,
Лекі даваў ад хваробы.

Ў хаце рыбацкай тапчанік нізкі,
Там ён марнеў у нядолі.
«Чую, — мне кажа, — канец свой
блізкі.
Што ж, не мая гэта воля!

Грэшны я, грэшны, марна губляю
Свае маладыя леты,
Але без жалю свет пакідаю,
Ласкай яго не сагрэты.

Скал надбярэжных дзікі закутак
Быў мне раднейшы, чым людзі:
Шчасце ўспамінаў поўніла грудзі,
І ў гэтым шчасці — мой смутак.

Дружа мой верны, з сэрцам гарачым
Я сваю споведзь канчаю,
Лепшым аддзячыць табе няма чым,
Што ў мяне ёсць — прысвячаю.

Помніш, напэўна, песню-вяснянку,
Тую, што часта спяваў я?
Хто моцна любіць—траціць каханку,
Жаласней песні не знаў я.

Вось валасочкі яе льняныя,
Ліст кіпарыса ў паперцы:
Гэта мой скарб, дары дарагія,
Боль, што насіў я на сэрцы.

Будзеш паўз Нёман ісці, дзядочак,
Стрэнеш яе, не іначай.
Можа, прызнае жоўты лісточак,
Можа, ад песні заплача.

Прыме, адарыць, будзеш у хаце,
Скажаш...» —і шэпча: «Марыя!»
Мабыць, успомніў Божую Маці,
Рукі падняў ён худыя,

Рукі упалі. Сціхла дыханне,
Кроплі халоднага поту.
І адышоў ён, поўны кахання,
У край, скуль не будзе
звароту».

Скончыў дудар, на зборышча глянуў,
Выняў лісток. Дзе ж пастушка?
Але яе не было на паляне,
Знікла, як райская птушка.

Ў лёгкай сукенцы, ў белай хусцінцы
Што там мільгае такое?
Хлопец пастушку вёў па гасцінцы,
Зніклі за гаем абое.

«Хто гэта быў?» — пытаюцца ў
дзеда,
Кожны здагадкі выказваў.
Ён жа не ведаў, можа, і ведаў,
Але маўчаў, не адказваў.

# ПАНІЧ І ДЗЯЎЧЫНА[1]

## I

Збірае дзяўчына
У гаю суніцы
І бачыць — хлапчына,
Паніч белаліцы.

Пачціва складіўся,
З каня ён саскочыў.
Твар дзеўчы змяніўся,
Спусціла ў дол вочы.

«Дзяўчына кахана!
Сюды, у дубровы,
З сябрамі урана
Прыбыў я на ловы.

Блукаю тут многа
Адзін без пуціны.
Скажы, дзе дарога,
Красуня-дзяўчына?

І з лесу ці скора
Ці выведзе сцежка?»

---

[1] Першая частка гэтага верша напісана А. Адынцом, другая і трэцяя — Міцкевічам.

«Яшчэ пан упору
Заедзе без спешкі.

На полі, бач, дрэва,
Навокал — бярозкі,
Адтуль шлях налева
Паблізу ад вёскі.

На горку і хмызам
Ды ўправа над рэчкай,
Праз мосцік, млын, нізам,
Там згледзіш мястэчка».

З падзякай спакусна
Ён руку пацісну ў,
Прыльнуў к яе вуснам,
На коніка свіснуў.

Мільгнуўся, як птушка,
Няма яго ў гаю.
Уздыхнула пастушка.
Чаго? Я не знаю.

## II

Збірае дзяўчына
У гаю суніцы
І бачыць — хлапчына,
Паніч белаліцы.

Здалёку гукае:
«Скажы мне, дзяўчына,
Мо ёсць дзе другая
У мястэчка пуціна?

Ні рэчкі змялелай,
Ні мосціка тога.
Ўтапіць ты хацела
Хлапца маладога».

«То едзь, пан, пуцінай,
Што там пры кургане».
«Ну, дзякуй, дзяўчына».
«Бывайце, васпане».

Пайшла ў лес пуціна.
Няма яго ў гаю.
Ўздыхнула дзяўчына.
Чаго? Ой, я знаю!

III

Збірае дзяўчына
У гаю суніцы
І бачыць — хлапчына,
Паніч белаліцы.

І роніць ёй словы:
«Дзяўчо, бойся бога!
Я ўехаў у ровы,
Хіба ж то дарога?

Слядоў ад павозкі
Не згледзіш і знаку,
Хіба мо хто з вёскі
Працягне дзярвяку.

Палюю ад рана,
З дарогі я збіўся —
І сам змардаваны,
І конь затаміўся.

Язда безупынку
І прага даймае.
Пушчу на хвілінку
Папасвіць каня я».

Пачціва скланіўся,
З каня ён саскочыў.
Твар дзеўчы змяніўся,
Спусціла ў дол вочы.

І слоў ані слыху.
Па хуткай жа хвілі
Хто ўголас, хто сціха
Яны гаварылі.

Ды ветрык там дзьмухаў
У лес, у дубровы,
І я не даслухаў
Хлапецкай размовы.

З вачэй жа і з міны
Я пэўна дазнаўся,
Што больш ён ў дзяўчыны
Дарог не пытаўся.

## З ДРУГОЙ ЧАСТКІ «ДЗЯДАЎ»

Ч а р а ў н і к

Блізка поўнач чараў слынных,
Дзверы добра зашчапіце,
Развяжыце пук лучыны
І гарэлкай чан наліце.
А як знак падам я ўмела,
Вы гарэлку падпаліце —
Каб да дна яна згарэла.
Толькі жвава, толькі смела.

С т а р ы

Пачынаю.
Пачынаць мо?

Ч а р а ў н і к

Калі ласка!

С т а р ы

Выбухнула, закіпела
І згасла.

Х о р

Цёмна, людзі... Страшна, людзі...
Нешта будзе, нешта будзе?

Ч а р а ў н і к

Вы, з такім нялёгкім лёсам,
Хто да долу прыкаваны

Ланцугом злачынстваў злосных
І спадманам прыхаваным!
Ваша хата ўжо асела,
Ваш анёлак смерці кружыць,
Ды ўсё роўна ваша цела
У пакутах цяжкіх тужыць.
І пакутваць доўга будзе —
Аж пакуль не прыйдуць людзі
І пакуты ўсе ліхія
З вас, нябогаў, паздымаюць.
Заклінаю вас стыхіяй,
Я агнём вас заклінаю!

Хор

Гаварыце, што вам трэба —
Ці вады, ці, можа, хлеба?

Голас

*(за акном)*

Совы, крумкачы, арліцы,
Ненажэры-крывасмокі!
Прапусціце да капліцы,
Дайце хоць ступіць два крокі.

Чараўнік

Гляньце, гляньце — во страхоцце!
Пад акном стаіць пры плоце
Здань. Як склют у чыстым полі,
Белая уся — зірніце.
З рота — дым і бліскавіцы,

Нібы ў попеле вуголле,
Свецяць вочы ў цемры ночы,
Валасы навіслі клоччам.
Нібы сноп сухой парою —
Гэтак полымя шугае,
Над пакутнай галавою
Іскры з трэскам рассыпае.

### Хор

Нібы сноп сухой парою —
Гэтак полымя шугае,
Над пакутнай галавою
Іскры з трэскам рассыпае.

### Здань

*(з-за акна)*

Ці пазналі мяне, дзеці?
Добра зблізку паглядзеце
І прыпомніце як трэба:
Я ж нябожчык, пан ваш, дзеці, —
Вы ў мяне прасілі хлеба...
А цяпер такі я хілы —
Сёння год мінае трэці,
Як мяне ўзяла магіла.
Кара божая цяжкая!
Я ў руках у духа злога
Да скanання, да знямогі
Цемры ў ночы я шукаю —
Я ад сонца уцякаю...
Вечны голаду нявольнік,
Лёс бадзяжны свой кляну я,—

Хто напоіць, хто ўчастуе?
Цела птахі рвуць няўмольна.
Хто ўратуе ад іх, лютых?
Не, няма канца пакутам!

Хор

Цела птушкі рвуць няўмольна.
Хто ўратуе ад іх, лютых?
Не, не скончацца пакуты!

Чараўнік

Што табе, нябожа, трэба,
Каб унікнуць катавання?
Ці ты хочаш можа ў неба,
Сніш святыя баляванні?
Малако і хлеб мы маем,
Нават ягадаў хапае.
Дык скажы, скажы, што трэба,
Каб душа пайшла на неба?

Здань

Мне у рай? Пабойся бога!
Не, я не хачу у неба.
Я хачу ужо нямнога —
Для душы, адно, спагады:
Пекла будзе мне за радасць.
Дайце радасць мне такую —
Жахі пекла, ўсё знясу я.
Лепей там, на дне ўжо енчыць,
Чым блукаць з нячыстым духам
Па зямлі спрадвечным кругам
І вады і хлеба кленчыць,

Бачыць даўніх дзён уцехі
І сваіх злачынстваў вехі.
Ад усходу да заходу,
Ад заходу да усходу
Паміраць ад смагі даўняй,
Пераносіць голад даўкі
І карміць сабою птушак.
Выпаў лёс такі — я мушу
Да таго насіць у целе
Дух асуджаны на тое,
Покуль хто з вас не падзеліць
Ежу і ваду са мною.
Ах, як смага, смага смаліць,
Хто б мне даў вады напіцца?!
Мне, галоднаму, падалі б
Вы хоць зернейка пшаніцы!

Хор

Ах, як смага, смага смаліць —
Хто б прынёс вады напіцца?!
Мо, галоднаму, падалі б
Вы хоць зернейка пшаніцы!

Хор начных птушак

Не памогуць нашы словы —
Плачаш, пане, ты дарэмна:
Пугачы, крукі і совы
Над табою кружым хмарай —
Тваю ежу адбярэм мы!
Мы ж тваіх забаў ахвяры,
Твае слугі, пане ясны,—
Мы ад голаду ўсе згаслі.

Гэй, крукі, сычы і совы,
Налятайце на яго вы,
Ежу, злосныя, ірвіце!
Знойдуць ежу ў глотцы пана
Нашы дзюбы, нашы кіпці
І з вантробамі дастануць.

Літасці не меў ты, пане!
Гэй, сычы, крукі і совы!
Дзе вы, нашай помсты межы?!
Адбірайце ўсю дазвання
Ежу панаву са злосцю.
А калі не хопіць ежы, —
Пана мы дзяўбці гатовы,
Аж пакуль засвецяць косці.

## Крук

Што, ты скардзішся на голад?
А ці помніш, як пад восень
Я ў твой сад зайшоў. Наўкола
Ад пладоў усё зілося,
Я ж тры дні не еў нічога.
Строс быў яблык пераспелы,
Ды садоўнік — злы ад злога, —
Што схаваўся ў садзе лоўка,
Закрычаў як ашалелы,
Зацкаваў мяне, бы воўка.
Узяла мяне аблава —
Пачала выростаць справа.
А прычына? Яблык гэты,
Плод для ўсіх агульны, даўні,
Што пан бог для усяго свету,
Як ваду з агнём, аддаў нам.

Але гнеўны пан лютуе:
«Пакараць, каб помніў кожны,
Колькі яблык мой каштуе!»
Збеглася сяло ўсё, можа.
Так караць, панок, нягожа:
Шмат пукоў лазы зламілі,
Покуль слугі і паняты,
Як ад коласа зярняты,
Як гарох той ад лапатак,
Скуру ад касцей адбілі.
Літасці не меў ты, пане!

### Хор птушак

Гэй, сычы, крукі і совы,
Нашай помсце няма межаў.
Адбірайце ўсю дазвання
Ежу панаву са злосцю.
А калі не хопіць ежы, —
Пана мы дзяўбці гатовы,
Аж пакуль засвецяць косці.

### Сава

Што, пан, — голад дрэнны татка?..
Помніш, як у холад самы,
Тулячы ў рыззі дзіцятка,
Я стаяла каля брамы?
«Пан! — маліла са слязамі. —
Злітуйся хоць ты над намі!
Муж даўно мой на тым свеце,
І дачка ў тваім палацы,
Маці хворая у хаце,
А ў мяне — малыя дзеці...

Пан, не дай ты нам памерці —
Вырві з рук галоднай смерці!»

Але ж ты без сэрца, пане!
Не пакінуў свайго балю,
Не падаў нам хлеба з жалю,
Гайдуку шапнуў на вуха:
«Хто гасцям псуе гулянне?!
Прэч гані адсюль галоту,
Каб не чуць было і духу!»
І гайдук цябе паслухаў —
За касу па гурбах снегу
Павалок нас за вароты.
Я, скалелая, ў знямозе,
Не знайшла нідзе начлегу —
Змерзла з дзіцем на дарозе.
Літасці не меў ты, пане!

Хор птушак

Гэй, сычы, крукі і совы,
Нашай помсце няма межаў!
Адбірайце ўсю дазвання
Ежу панаву са злосцю.
А калі не хопіць ежы, —
Пана мы дзяўбці гатовы,
Аж пакуль засвецяць косці.

Здань

Ратунку няма мне. Марна
Падносіце смачную ежу,
Накінецца птушак хмара —
Не мне ўжо дзяды належаць.

Так пакутваць мушу век векам —
Справядліва твая воля, божа!
Бо таму, не быў хто чалавекам,
Памагчы ніхто ужо не зможа.

Хор

Гэтак будзеш мучыцца век векам —
Справядліва твая воля, божа!
Бо таму, не быў хто чалавекам,
Памагчы ніхто ужо не зможа.

Чараўнік

Як табе мы не паможам,
Дык ідзі ты прэч, нябожа.
А хто просьбаў век не слухаў
У імя святога Духа,
Бачылі вы божы крыж?
Хто ж не можа з намі есці,
Хто за стол не можа сесці —
Прэч адсюль!
Акыш, акыш!

Хор

А хто просьбаў век не слухаў
У імя святога Духа,
Бачылі вы божы крыж?
Хто ж не можа з намі есці,
Хто за стол не можа сесці —
Прэч адсюль!
Акыш, акыш!

*(Прывід знікае)*

JEDNAKŻE GDY CIĘ DŁUGO
NIE OGLĄDAM,
CZEGOŚ MI BRAKNIE,
KOGOŚ WIDZIEĆ ŻĄDAM

## ДА М.*** (Марылі)

«Прэч з маіх воч!..» I я знікну без следу,
«Прэч з майго сэрца!» I сэрца скарыцца,
«Прэч з маёй памяці!» З гэтым, ты ведай,
Век наша памяць не зможа згадзіцца.

Быццам той цень, чым далейшы, тым большы,
Кіне на шлях свой цямнейшыя крылы,
Так мая постаць, далей адышоўшы,
Памяць тваю большым крэпам акрые.

Там, дзе страчаліся шчаснай парою,
Дзе расставаліся сумнай хвілінай,
Буду заўжды неразлучным з табою,
Бо ўсюды частку душы я пакінуў.

Ці ты ў задуме у час вечаровы
Арфу рукою кранеш, як бывала,
Пэўна, згадаеш: «Вось гэтыя словы
Гэткай парою яму я спявала».

Ці, калі ў шахматы будзеш гуляць ты
I твой кароль апынецца пад боем,
Пэўна, згадаеш: «У дзень той астатні
Выбыў кароль гэтаксама са строю».

Ці на балу ты спачыць на хвіліну
Сядзеш і, ўбачыўшы месца пустое,
Пэўна, падумаеш: «Тут, ля каміна,
Некалі разам сядзеў ён са мною».

Ці часам возьмеш ты вершы паэта
Пра нешчаслівых каханкаў і з жалем,
Кнігу закрыўшы, падумаеш: «Гэта
Праўду аб нашым жыцці напісалі».

А калі аўтар злучыў маладую
Пару, шчаслівае даў ім каханне,
Свечку пагасіш ты і пашкадуеш:
«Не, ўсё не так, як у нашым рамане!»

Раптам прарэжа імглу бліскавіца,
З ветрам зашэпчацца груша сухая,
Грукне ў акно тваё птушка-начніца,
Пэўна, падумаеш — я тут лунаю.

Там, дзе страчаліся шчаснай парою,
Дзе расставаліся сумнай хвілінай,
Буду заўжды неразлучным з табою,
Бо ўсюды частку душы я пакінуў.

# НЯЎПЭЎНЕНАСЦЬ

Калі не страчаю цябе я — не плачу,
Спакойны — калі цябе раптам пабачу;
Аднак, як на час ты даўжэйшы знікаеш,
Чагось нестае мне, кагось не хапае.

Самотны, сабе задаю я пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?

Калі ты адыдзеш — ніяк не умею
Твой вобраз успомніць і трачу надзею.
Аднак адчуваю я кожнай парою,
Што вобраз твой светлы заўсёды са мною.

І зноў я сабе паўтараю пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?

Хоць ведаў я гора, але сваім болем
Дзяліцца з табой не хацеў я ніколі,
Хоць часам без мэты ішоў я дарогай,
Заўжды ля твайго апынаўся парога,
І, ў дом уваходзячы, ставіў пытанне:
Ці дружба мяне прывяла, ці каханне?

Жыццё за здароўе тваё я аддаў бы,
Прадаўся б я пеклу і не шкадаваў бы,

Аднак я далёкі ад прагі такое,
Каб я быў здароўем тваім і спакоем.
І зноў я сабе паўтараю пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?

Калі мне паложыш руку на далоні,
Нязнаны спакой маё сэрца агорне,

Сном лёгкім навекі засну я, здаецца,
Ды будзіць мяне ўсхваляванае сэрца.
І мне задае яно ўголас пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?

Калі для цябе гэту песню складаў я,
На ўсё забывала душа маладая,

І я не заўважыў, што́ склала аснову
Натхнёнае мыслі, і рыфмы, і слова.
І па заканчэнні я стаўлю пытанне:
Ці дружба натхніла мяне, ці каханне?

## СОН

Калі прымусіць час сказаць «бывай»,
А ў сэрцы не пагасне жар кахання, —
Пакінь без слоў, але не дабівай
Мяне суровым словам — расставанне!

Ты пры апошняй стрэчы у гаі,
Пакуль зара расой напоіць руту,
Апошнім пацалункам упаі
І ўжо на ростань — кроплямі атруты.

Разлучымся — і стане мне лягчэй;
Бяссільны, упаду к табе на ўлонне,
Цалуючы блакіт тваіх вачэй,
Загледзеўшыся ў цемру іх прадоння.

Так да сканчэння свету я прасплю,
А ў Судны дзень, калі затрубяць трубы,
Ты ціха сыдзеш з неба на зямлю,
Каб разбудзіць таго, хто сэрцу любы.

І здасца мне, што не прайшлі вякі;
Зусім нядаўна я цябе пакінуў, —
Загледзеўся ў вачэй тваіх блакіт
І задрамаў на нейкую хвіліну.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ

Дзень добры! Не буджу. О хараства
спакою!
Як соладка ты спіш! Пуховыя аблокі
Галоўку абнялі, цвітуць, як ружы, шчокі,
Так дрэмле сонца, развітаўшыся з зарою.

Дзень добры! Ты глядзіш. Павеяла вясною.
Дзень добры! Уставай! Які прастор
шырокі!
Дзень добры, любая, анёл мой яснавокі!
Дзень добры! Сонца ў вокнах, я перад
табою.

Дзень добры! Ад душы табе маё вітанне,
Але нясмеласці сваёй не пабароў я.
Жадаю радасці і добрага здароўя.

Дзень добры! Дай руку мне ў знак
прызнання.
Саромеешся? Праганяеш? Вось убранне.
Адзенешся, выходзь! — скажу дзень добры
зноў я.

## ДАБРАНАЧ

Дабранач! Сёння больш не будзем весяліцца,
Няхай атуліць сон цябе крылом празрыстым!
Дабранач! Маладзік плыве па небе чыстым.
Дабранач! Адпачні, маіх уцех царыца!

Дабранач! Летуценняў райская крыніца
Няхай звініць напевам ціхім, урачыстым!
Калі ж у моры забыцця патонеш мглістым,
Хай вобраз мой няпрошаны табе прысніцца.

Дабранач! Усміхніся! Глянь! Ах, вочы, вочы!..
Люблю цябе. Дабранач! Не заві служанку!
Дай пацалую грудзі. — Нельга? — Добрай
ночы!

Замкнулася на ключ, завесіла фіранку.
Дабранач! Лішні я, ты знаць мяне не хочаш.
Я мог бы паўтараць дабранач аж да ранку.

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добры вечар, будзь лепшым маім
прывітаннем!
Ты мілей мне! А дзень толькі нас разлучае.
Ранне кліча да працы, трывогай страчае.
Добры вечар! Чакаў я цябе з хваляваннем.

Як уцешаны я нашым познім спатканнем!
Лёгкі змрок. Цішыня. Небакрай палыхае.
Ты ў румянцах гарыш, як зара маладая,
І звіняць нашы сэрцы маўклівым
прызнаннем.

Няхай сонца ўзыходзіць на радасць
народу,
Асвятляе шляхі, ураджай дае нівам.
Добрай ночы жадаю каханкам шчаслівым,

Пасля клопатаў дзённых хай п'юць
асалоду.
А пачуццям нясмелым, а нам,
сарамлівым,
Добры вечар прыкрые залішнюю згоду.

# ПІЛІГРЫМ

Ля ног маіх — багаццяў край, красы —
сляды,
Сінь ясная ўгары, тут шмат прыгожых
твараў;
Чаму ж адсюль імкнецца сэрца у абшары
Далёкія і ў яшчэ больш далёкія гады?

Літва! Твой шумны лес мне пеў мілей
тады,
Чымся дзяўчаты тут, чым салаўі ў
Байдарах;
Я весялей таптаў дрыгву тваіх імшараў,
Чым ананасаў і шаўкоўніцаў сады.

Далёкія спакусы вабяць пастаянна;
Чаму ж няўважлівы ўздыхаю ўсё па той,
Якую я кахаў у дні вясны маёй?

Яна ў краі, які ў мяне ўжо адабраны,
Дзе ўсё нагадвае аб любым, верным ёй,
Ступіўшы на мой след, ці ўспомніць аб
каханым?

## СЯБРЫ

Што дружбы шчырай больш няма на
свеце,
На гэта доказы ў Ашмянскім ёсць
павеце.
Жыў Лешак там калісь і кум ягоны
Мешак, —
Пра дружбу іх я нават чуў размову,
Што як знаходзілі яны арэшак,
Дык зернетка дзялілі напалову, —
Ну, словам, не кумы, а спарышы:
Два целы аб адной душы;
І ў той даўнейшы час такіх было
нямнога.
Аднойчы ў халадку пад шум галля
ляснога
Пра дружбу ўдвух яны сардэчна
размаўлялі,
Зязюлі і дразды іх дружбу праслаўлялі,
І на душы ў сяброў так хораша было...
Аж раптам нешта зараўло.
Тут Лешак зразу кінуўся да дуба,
А Мешак лазіць не мастак: вось-вось
загіне.
Крычыць: «Ратуй, кумок, прыйшла мне
згуба!»
А кум ужо на самай верхавіне.
Не ўспеў збялелы Мешак пасці ніц,

А ўжо над ім мядзведзь стаіць:
Мацнуў, нюхнуў і зморшчыў нос ад
паху,
Што йшоў у Мешка з-пад адзежы
(Той пах, вядома, быў ад страху).
«Мярцвяк, — рашыў мядзведзь. — Ды
ўжо й не свежы», —
І адвярнуўся грэбліва тым часам:
Літвін-мядзведзь не есць гнілога мяса.
Ачнуўся Мешак: «Шчасце, дружа
мой,—
Такое кум,— што не патрушчыў косці.
Але чаго так доўга соп ён над табой,
Нібы шаптаў на вуха штосьці?»
— Шаптаў ён,— кажа Мешак,—
пане дабрадзей,
Што дружба правяраецца ў бядзе».

## З «КОНРАДА ВАЛЕНРОДА»

### *ПЕСНЯ*

Вілія, маці рачулак празрыстых,
З твару блакітная, з дном залацістым;
Ды прыгажуня-літвінка, якая
Ходзіць тут, сэрца чысцейшае мае.

Вілія ў ковенскай мілай даліне
Сярод цюльпанаў паблісквае плынню;
Шмат у літвінку хлапцоў закахана,
Статных, страйнейшых, чым кветкі
цюльпана!

Віліі не да квяцістай даліны:
Нёмана хоча знайсці дарагога;
Нудна літвінцы між родных літвінаў,
Бо юнака пакахала чужога.

Вілію Нёман гвалтоўна хапае,
Цісне ў абдымках, нясе у прасторы
І да грудзей ледзяных прыхінае,
Гіне з ёй разам у бездані мора.

Прыхадзеню і цябе так аддалі
З родных далін, о літвінка-нябога!
Тонеш і ты ў забыцця мутнай хвалі
Ды на самоце, адна, без нікога.

Рэчка плыве, і дзяўчына кахае:
Сэрцу і Віліі не загадаеш;
Вілія ў Нёмане любым знікае,
Дзеўчына ў вежы маўклівай рыдае.

# УЦЁКІ

*Балада* [1]

Ён ваюе — год пражыты,
Ён не едзе — мо забіты.
Панна, пашкадуй гадоў:
Засылае князь сватоў.

Князь балюе ў замку рана,
А ў святліцы плача панна.

Яе вочы, бліскавіцы,
Сёння — мутныя крыніцы;
Твар, што быў, як месяц поўны,
Сёння — маладзік няроўны:
Гора для красы чароўнай.

---

[1] Сюжэт гэты знаёмы народам усіх хрысціянскіх краін. Паэты па-рознаму выкарыстоўвалі яго. Бюргер пабудаваў на ім сваю «Ленору». Не ведаючы народнай нямецкай песні, нельга акрэсліць, наколькі Бюргер змяніў змест і стыль. Гэтую баладу я склаў паводле песні, якую калісьці чуў у Літве на польскай мове. Я захаваў змест і кампазіцыю, але з усёй гэтай народнай песні ў памяці засталося некалькі радкоў, якія паслужылі ўзорам стылю.— *Заўвага аўтара.*

Маці з гора ледзь не плача,
Дзень вяселля князь прызначыў.

Едзе шумнае вяселле.
«Маці, лепш не да алтара,
А вязіце да цвінтара,
Будзе мне труна пасцеллю.
Калі мёртвы ён — памру я,
Жаль заб'е цябе, старую!»

Ксёндз чакае, божы служка,
Час да споведзі, дачушка.
Падышла кума-вядзьмарка:
«Прагані ксяндза са смехам,

Бог і вера, сон і мара!
Я знайду ў бядзе уцеху,
У кумы умельства колькі! —
Кветка шчасця і цар-зёлкі,
Дай мілога падарункі,
Зробім чары для ратунку.

Змейкай пасмы кос спляці,
Разам кольцы два скруці,
З левай ручкі кроў пусці;
Змейку будзем заклінаць,
Дзьмуць у кольцы і шаптаць:
Прыйдзе ён цябе забраць».

Звалі духа — коннік слухаў,
Змоўклі ледзьве — сам ён едзе;
Адамкнуў халодны гмах:
Не ахопіць панну жах?

Замак спіць. Невыпадкова
Панну сон схіляе ўпарта.
Б'е гадзіннік поўнач. Варта
Дрэмле. Чуцен стук падковы.
Дзесь завыў сабака ціха
І знямеў, нібы на ліха.

Брама скрыпнула старая,
Нехта сенцамі даўгімі
Крочыць... Дзверы адмыкае:
Трое — адны за другімі.
Коннік, белы ўвесь, прыгожы,
Увайшоў і сеў на ложак.

Вельмі хутка час мінае.
Конь іржэ, галосяць совы,
Б'е гадзіннік: «Будзь здарова,
Конь заржаў, мой конь чакае;
Ці ўставай, хадзем са мной,
Будзеш ты навек маёй».

Месяц згледзеў — коннік едзе
Па палях і па кустах:
Не ахопіць панну жах?

Конь імчыць то ў полі ветрам,
То праз нетры — глуха ў нетрах;
Тут і там на хвойных кронах
Каркне спужана варона,
Між лазы, як свечкі ўночы,
Воўчыя мільгаюць вочы.

«Конь, наўскач імчы праз бор!
Месяц жа выходзіць з хмар:

А пакуль ён выйдзе з хмар,
Дзесяць скал нам, дзевяць гор,
Дзесяць рэк пераляцець;
Праз гадзіну пеўням пець».

«Едзем мы куды?» — «Дадому.
Дом мой на гары Мендога;
Днём адкрыта ўсім дарога,
Ноччу ж толькі мне, вядома». —
«Маеш замак?» — «Маю замак,
І надзейны, хоць без клямак».

«Дарагі мой, не спяшайся,
Ледзь сяджу я — ці ж не знаеш?» —
«Любая, дык ты ж трымайся
За сядло. Што ты трымаеш?..
Мо мяшэчак свой з канвою?» —
«Не, малітвеннік са мною».

«Не, імчыцца ўслед пагоня.
Чуеш тупат, гул ля гаю?
Бач, наперадзе бяздонне,
Кніжку кінь, каня пускаю».

Конь без лішняе паклажы
Пераскочыў дзесяць сажняў.

Конь імчыць з апошняй сілы.
Пуста. Багна. Бездарожжа.
Аганёк, як спадарожнік,
Цераз пліты і магілы
Уцякае ад пагоні, —
Толькі — сіні след праз гоні,
А па ім імчыцца коннік.

«Любы, што тут за дарога?..
Чалавека след не ўгледзець...» —
«Усё ж дарога — раз трывога;
Хто ўцякае, крыва едзе.
Дзе сляды? Няма ўваходу
Да мяне для пешаходаў,
Багацея ўвозяць цугам,
Беднякa уносяць слугі.

Конь, наўскач! Сярод імглы
Блісну́ў золак наўздагон,
Праз гадзіну ўдарыць звон,
Покуль грымне ранні звон,
Дзве нам рэчкі, дзве скалы,
Дзве гары пераляцець:
Другім пеўням хутка пець».

«Конь упудзіўся, мой любы!
Стрымлівай яго за повад:
За скалу ці голле дуба
Ён зачэпіць выпадкова».

«Любая, што тут сабрана:
Шнур, кішэнькі — падарункі?» —
«Гэта пацеркі, каханы,
Амулеты і карункі».

«Шнур пракляты! Шнур знянацку
Рысаку аслепіць вочы,
Конь дрыжыць, ён хутка збочыць...
Любая, кінь гэту цацку!»

Конь, пазбыўшыся трывогі,
Праскакаў пяць міль дарогі.

«Гэта могільнік, мой мілы?» —
«Мур мой гэта, замка межы». —

«А нашто крыжы, магілы?» —
«Гэта не крыжы, а вежы.
Мур мінём, мінём парогі,
Тут навек канец дарогі.

Стой, мой коню, коню, стой!
Ты да пеўняў праскакаў
Столькі гор, і рэк, і скал:
Што ж дрыжыш, старанны мой?
Знаю, конь, чаго дрыжыш:
Ты, як я, натрудзіў крыж».

«Ты спыніўся, мой каханы?
Дзьме халодны вецер люты,
Пырскае расой лядзянай,
Я дрыжу, плашчом ухутай».

«Прыхінуся, дарагая,
Да тваіх грудзей шчакамі,
Галава мая палае,
Ад яе нагрэўся б камень.

Што ў цябе за цвік са сталі?» —
«Маці крыжык мне надзела». —
«Востры крыжык твой, як стрэлы,
Твар мне раніць, скроні паліць.
Выкінь гэты цвік са сталі!»

Крыж упаў, калоць не будзе,
Коннік панну моцна сціснуў,
У вачах агеньчык бліснуў,
Засмяяўся конь, як людзі.
Мур наўскач пераляцелі,
Звон звінеў, і пеўні пелі.
Покуль ксёндз з'явіўся рана, —
Зніклі конь і коннік з паннай.
Ціш сярод крыжоў пахілых
І ля пліт адшліфаваных:
Без крыжа адна магіла,
Свежая зямля ўскапана.

Адпяваў ксёндз у цішы
Дзве іх грэшныя душы.

# EXEGI MUNIMENTUM AERE PERENNIUS...[1]

*З Гарацыя*

Узнёслы помнік мой перажыве ў вяках
Касцюшкаў саркафаг[2] і ў Вільні Пацаў гмах,
Ні лотр Віртэмберг[3] яго б не мог скрышыць,
Ні аўстрыяк-свінюк з нямецкім спрытам зрыць.

Бо ад Панарскіх гор і блізкіх Коўна вод
За Прыпяць слава йдзе — навошта славе брод!
Мінск, Навагрудак — скрозь я любы юнакам,
У іхніх спытках ёсць прастор маім радкам.

І дочкі ахмістрынь чытаюць без нуды.
Як лепшага няма — бярэ палац тады.
Карай пагрозай, цар! Пільней глядзі,
жандар!—
Мае тамы крадком вязе ў Літву карчмар.

---

[1] Літаральна: «Я крэпасць узвёў больш трывалую, чым бронза...» Гэта жартаўлівая парафраза пачатковых слоў оды Гарацыя «Я помнік узвёў...»

[2] Вавельскі кафедральны касцёл, Вавель.

[3] Князь Адам Віртэмберг, паляк па паходжанню, паступіў на службу ў царскую армію і ўдзельнічаў у знішчэнні помнікаў польскай культуры.

# КАЛІ МОЙ ТРУП

Калі мой труп тут паміж вас сядзіць,
Гамоніць з вамі, ў вочы вам глядзіць,
Душа ўдалі блукае — ах, блукае
І наракае ўсё — ах, наракае.

Я маю край, радзіму дум сваіх;
Мілейшы ён, чым гэтая краіна,
Што зараз у вачах стаіць маіх,
То майго сэрца любая айчына...

Туды я ад турбот і ад забаў
Люблю ўцякаць. Сяджу там пад дубамі,
Там я ляжу сярод духмяных траў,
Там я ганяюся за матылямі.

У белым з ганка там яна ідзе,
Да нас у гай зялёны прылятае,
У збожжы тоне, быццам у вадзе,
Нам свеціць з гор, нібы заранка тая.

# ПАН ТАДЭВУШ

*(урыўкі з паэмы)*

## *З кнігі першай*

Літва! Радзіма, як здароўе, дарагая!..
Што варта ты, той толькі ўцяміць і спазнае,
Хто цябе ўтраціць. Сёння прыгажосць тваю я
Зноў бачу і апісваю, бо ўсцяж сумую.

Святая дзева, што бароніш Чанстахову
І ў Вострай браме свеціш, што ўзяла ў ахову
Наш слаўны Навагрудак з яго верным людам,
Як мне жыццё ў дзяцінстве ты вярнула цудам,
(Калі ў адчаі маці пад тваю апеку
Мяне здала і мёртвую я ўзняў павеку
І зразу змог пайсці к тваіх святынь парогу
За вернутыя сілы даць падзяку богу) —
Так цудам зноў нас вернеш у наш край
каханы.

Тым часам перанось мой дух засумаваны
Ў зялёны лес, на сенажаці, на паляны,
Што над блакітным Нёмнам скрозь
парассціланы,
Да маляваных ніў, дзе жыта серабрыцца
І залачоная калышацца пшаніца,
Дзе грэчка, быццам снег, свірэпка, як
бурштыны,
І дзяцельнік гарыць румянцамі дзяўчыны.
А на мяжы, што стужкай абвіла палеткі,
Маўкліва грушы ціхія паселі зрэдку.

А сонца круг свой да краёў нябёс каціла,
Яно слабей ужо, але шырэй свяціла,
Пачырванеўшы, як здаровае аблічча
Гаспадара, якога пасля працы кліча
Спачынку мілы кут. І вось круг прамяністы
Спускаецца на бор, а шэры змрок імглісты,
Запоўніўшы вяршыні і галлё да краю,
Лес звязвае ў адно, нібы яго злівае.
І бор чарнеў, накшталт няведамага гмаху,
Над ім гарэла сонца, як пажар на даху,
Ды вось апала ўглыб, між дрэў яшчэ іскрыцца,
Як свечка вечарам са шчылін аканіцы,
І пагасае. Ўміг сярпы спыняюць працу,
І граблі ў лузе больш ужо не мітусяцца,
Бо пан Суддзя здаўна даў гэткае ўказанне,
Каб працу разам з сонцам кідалі сяляне.

## *З кнігі другой*

Уздоўж стаялі дрэвы рад ля рада
І зацянялі плошчу поля. Сподам — грады.
Капуста да зямлі тут лысіны зніжае,
Нібы пра долю ворыва ўсцяж разважае.
Там боб струкі свае ўплятае моркве ў косы
І тысячай вачэй за ёю сочыць скоса,
А там залоціцца на сонцы кукуруза
І дзе-нідзе гарбуз з бацвіння выпнуў пуза,
На ўзмежках гэтай разнаколернай паляны
Шарэнгамі, як войска, лес стаў канапляны.
Гародных кіпарысаў водар, ліст зялёны
З'яўляюцца для град надзейнай абаронай,
Бо гадзіна не смее праз лісты прабрацца,
А вусні-ненажэры водару баяцца.
А далей мак узняў бялявыя быліны —
На іх як быццам рой рассеўся матыліны,
Скрыдэлкамі трапечучы, ў якіх мігценні
Гарацъ вясёлкі ды каштоўныя каменні,—
Такім багаццем колераў мак позірк кліча
Між кветак, як між зорак месяца аблічча,
Сланечнік велічны, багаты расцвітае
І цэлы дзень за сонцам твар свой паварачае.

Пад плотам — доўгіх, вузкіх бугаркоў
палетак —
Гарод на агуркі без дрэў, кустоў і кветак.

Прыгожа выраслі і лісцем лапушыстым
Пакрылі грады, быццам кілімам пушыстым.
Вось месяц запаліў свой факел серабрысты
І асвяціў зямлю і купал неба чысты.
Яны, адслоненыя з цемры ў палавіне,
Драмалі, быццам з жонкай муж; а той хвіліне
Шчаслівa неба сіняе ў абдымкі брала
Зямлю, што грудзі ў промнях месяца купала.

А від сапраўды быў прыгожы, маляўнічы!
Ставы два пахілілі да сябе абліччы,
Як пара закаханых: правы быў глыбокі,
Без траваў, чысты, гладкі, як дзяўчыны шчокі,
А левы чуць цямнейшы, як твар маладога,
З загарам і пушком абсыпаны нямнога.
Пяском залочаным свяціўся злёгку правы,
Як ясным воласам, а левы кучаравы,
Лазой наежаны і вербамі чубаты,
Абодва зелені вянком былі абняты.

Два ручаі з іх, быццам дзве рукі, супольна
Сціскаюцца, і ўніз адзін ужо прывольна
Спадае, ды не гіне: ў рову павароты
Нясе на дробных хвалях бліскі пазалоты.
Вада ляціць пластамі, а на кожным пласце
Па жмені ўзбліскаў месяц рупіцца пакласці.
Святло ў канаве ў стружкі дробненькія рвецца,
А плынь іх, падхапіўшы, знесці ўдаль
імкнецца,
І зверху свет дрыжачы месяца зноў льецца.
Як быццам Свіцязянка, сеўшы на раўніне,
Адной рукой ваду лье з шклянага начыння,

Другою з фартушка кідае ў хвалі тыя
Зачараваных скарбаў пліткі залатыя.

А далей, з рова выбегшы, ручай павольна
Раскручваецца, льецца па раўніне польнай,
І на яго рухомай дробнай лускавіне
Ўздоўж месяца святло дрыжыць, плыве і гіне.
Якраз як той гівойтас, жмудзкі вуж прыгожы,
Што хоць нібы ляжыць на верасовым ложы,
Паўзе, бо срэбрам, золатам трымціць патроху,
Пакуль з вачэй не знікне паміж траў і моху:
Так і струмень хаваўся пад альшын завесу,
Што небасхіл адзначвалі падобна лесу,
Ўзнімаючыся формай шэрай і няяркай,
Як духі, напалову скрытыя за хмаркай.

Паміж ставоў над ровам млын стары схаваўся,
Як дзед, што закаханых падглядаць сабраўся.
Падслухаў іх размову, гневаецца, раецца,
Балбочучы пагрозы, і ажно трасецца:
Так млын той раптам страсянуў чалом
імшыстым
І кулаком крутнуў над ручаём празрыстым.
Скрыпучае старое закрактала кола,
Зглушыла шэптам ўсё і спевы навакола...

*З кнігі трэцяй*

Грыбы ўрадзілі. Хлопцаў просяць пакланіцца
У песнях слаўныя, румяныя лісіцы —
Дзявоцтва сімвал, бо іх чэрві не з'ядаюць
І, дзіўна, насякомыя не абсядаюць.
Паненкі дык баравіка знайсці жадалі,
Якому песні ў нас палкоўніка чын далі.
А ўсе рыжка глядзяць, бо ён хоць і сціплейшы
І менш у песнях слаўны, але найсмачнейшы
Ці солены, ці свежы, у любую пору.
А Войскі дык збірае толькі мухаморы.

І іншыя грыбы, пакінутыя ў браку,
Па шкоднасці сваёй ці дзеля злога смаку,
Ужытак свой даюць: звярыне служаць ежай,
Гняздом кузуркам, гай малююць фарбай
свежай.
На абрусе зялёных траў лясной паляны,
Нібы сталовае суддзё, парасстаўляны:
Сыраежак чырвона-жоўта-серабрыстых
Судзіначкі з вінам, прыгожым і празрыстым,
Казляк, як быццам кубка дно, пукаты, клейкі,
Як смуклыя шампанскія кілішкі-лейкі,
А белякі далёка свецяць між паляны,
Як малако ў вялікіх кубках паліваных,
І, пылам шэрым поўная, сядзіць у цені,
Як перачніца, порхаўка. Другіх імены

Мо ў зайчай або воўчай ведамыя мове,
Іх людзі не хрысцілі, бо гай імі повен.
Ніхто ні зайчых ані воўчых браць не рачыць,
А хто, нагнуўшыся, сваю памылку ўбачыць,
Бывае, зломіць грыб або нагой падкіне.
Не месца гэтакім слядам на зяляніне.

А ў той жа час ля іх ва ўсёй красе бясконцай
Літоўскія лясы ірдзелі ў блесках сонца.
Чаромхі, пасплятаныя вянкамі хмелю,
Рабіны, што румянцам маладым гарэлі,
Ляшчына ў зелені жазлоў, нібы мянада [1],
Уся ў гарэхах, як у гроздзях вінаграда.
А нізам песціцца з шыпшыннікам каліна
І туліць да малін свой чорны твар ажына.
Кусты і дрэвы лісцем рукі працягнулі,
Як хлопцы і дзяўчаты, распачаўшы гулі,
Навокал пары маладых. А між сабрання
Ёсць пара, што прыкметнай сярод іншых стане
Высмукласцю і колераў сваіх прывабам:
Бяроза белая, каханка, з мужам-грабам.
А рэшта, як старыя, на дзяцей і ўнукаў
Глядзяць маўкліва: тут паважных колькі букаў,
Там цёткі-таполі і, мохам барадаты,
Дзед-дуб, што пяць вякоў усклаў на карк гарбаты,
Стаіць ён, быццам на слупах грабніц разбітых,
На скамянелых трупах продкаў знамянітых.

---

[1] *Мянада* — жрыца бога віна Вакха: падчас свята гэтага бога мянады неслі палкі, абвітыя павоем і вінаградам.

## *З кнігі чацвёртай*

Хто зведаў пушч літоўскіх змрочныя абшары
Да непраходных нетраў, векавых гушчараў?
Рыбак на дно марское сеткі не запусціць,
І паляўнічы кружыць каля нетраў пушчы.
Ён толькі збольшага знаём з яе абліччам,
Але не быў ніколі ў сэрцы таямнічым.
А што там — толькі казка ведае, гавораць;
Бо нават каб прайшоў гушчар бясконцы бору,
Натрапіш у глыбі на вал з дрэў, што апалі,
Які бароняць багна з сотнямі рачалін
І зараснікі розных траў, і пнёў грамады,
І муравейнікі, і гнёзды вос і гадаў.
Калі б усё прайсці ўдалося чалавеку,
Далей яшчэ сустрэўся б з большай небяспекай:
Далей на кожным кроку, быццам ямы воўчы,
Зарослыя травой, трысцём азёры сочаць,
Іх глыбіні ніхто не вымераў на свеце
(Мо недарма гавораць, што жывуць там чэрці).
Вада іржавая ў тых студнях шкліцца мутна,
З глыбі дыміць смурод удушлівы, атрутны,
І ад яго губляюць дрэвы лісце, колер;
Трухлявыя, з карой падточанай і хворай,
Схіліўшы нізка вецце, звітае імхамі,
І горбячы ствалы, пакрытыя грыбамі,
Сядзяць каля вады, як нейкія пачвары
Ля сагана свайго, ў якім тут трупа варыць.

Далей лясных азёр ніхто не ступіць кроку,
Спрадвеку нетры крые ад людскога зроку
Імгла, як воблак белы, што з рачных вытокаў,
З дрыгвы і з прэлін падымаецца заўсёды.
Нарэшце, за імглой (такія чуткі ходзяць)
Ляжыць зямля багатая, не надзівіцца,
Звяроў і птушак царства, зелені сталіца.
Там з свету цэлага знаходзіцца насевак,
З якога вырастаюць травы, кветкі, дрэвы;
Жывуць там для расплоду ў цішыні гушчараў,
Як у каўчэзе Ноя, розных звяроў пары.
Чуваць, там ёсць двары з звярынай світай недзе
Уладароў лясных: зубра, лася, мядзведзя —
А каля іх логвішчаў, як нейкія міністры,
Гняздзяцца шэры воўк з драпежнай рыссю хітрай —
Далей, як падуладныя і верныя васалы,
Жывуць дзікі, ласі з рагамі, як каралы,
Арлы і сокалы на хвоях расахатых,
Прыдворныя сцярвятнікі сталоў багатых.
Усе патрыярхальныя лясныя пары
Ў глыбокіх, недаступных схаваны гушчарах,
Адно дзяцей сваіх шлюць за лясоў граніцы,
А самі бестурботна цешацца ў сталіцы;
Ні кулі паляўнічай, ні нажа не знаюць,
Старымі, сваёй смерцю ціха паміраюць.
Магільнік маюць нат, дзе, чуючы канчыну,
Складае пер'е птушка, зносіць поўсць звярына.
Мядзведзь, калі яму служыць клыкі не могуць,
Алень, калі ў яго зусім аслабнуць ногі,
Шарак, які ужо не прабяжыць далёка,
Крумкач сівы стагодні і аслепшы сокал,

Арол стары, ў якога дзюба ў крук сагнецца
І нават ежы разрываць не надаецца, —
Ідуць на свой магільнік; ранены ці хворы
Звер кожны ў бацькаўскія цягнецца прасторы.
Таму ў мясцінах тых, дзе чалавек заходзіць,
Ніхто касцей звяроў памерлых не знаходзіць.
Чуваць, што у лясной сталіцы, між звярамі,
Другія звычаі, бо ўсім кіруюць самі.
Не ведаюць цывілізацыі злых чараў,
Прыватнай ўласнасці, якая людзей сварыць,
Ні паядынкаў, ні ваеннай хітрасці, навукі —
Як прадзеды ў раю, так тут растуць унукі,
У дружбе, ў згодзе, хоць і дзікія, ніколі
Адзін другога там не ўкусіць і не сколе,
Нат калі б часам трапіў чалавек бяззбройны,
Напэўна бы, прайшоў паміж звяроў спакойна.
Яны глядзелі б на яго з такім здзіўленнем,
З якім у той біблійны першы дзень тварэння
Іх першыя бацькі, што па раю хадзілі,
Глядзелі на Адама, покуль з ім дружылі.
Добра, што чалавек не быў у тых старонах,
Бо доступу туды і Страх, і Смерць бароняць.
Адно ў пагоні часам гончыя заскочуць
Неасцярожна ў глыб дрыгвы і яраў змрочных,
Ды напалохае іх пушча векавая,
Як ашалелыя, скавычучы, ўцякаюць
Да паляўнічага, і доўгі час не могуць
Яны пазбыцца страху дзіўнага, трывогі.
Стральцы такія нетры абмінаюць
І іх звярынымі лагамі называюць.

## *З кнігі шостай*

Няўзнак світанне кралася з сырога змроку,
Дзень без румянца несучы, без свету ў воку.
Хоць дзень настаў, ён ледзь прыкметны праз
туманы.
Імгла вісела над зямлёй, як саламяны
Застрэшак над літвіна хатай. На ўсходзе
Заўважыць можна па святлейшым асяроддзі,
Што сонца ўстала, што ўзнімаецца над нівай,
Але, яшчэ заспанае, ідзе ляніва.

Па прыкладу нябёсаў і зямля заспала.
Пазней на луг жывёла выйшла, крочыць вяла
І зайцаў спозненых трывожыць пры сняданні.
Звычайна ў гай яны ўжо скачуць на світанні,
А ў сённяшняй імгле то хрумстаюць макрыцу,
То, ў гурт сабраўшыся, ў раллі прабуюць
рыцца
Ці забаўляюцца па-свойму на прасторы.
Спалоханыя, ў лес бягуць уздоўж разоры.

І ў лесе цішыня. Не хочацца птушыне
Пяяць, расу атрэсла, сеўшы на галіне,
Галоўку ўцiснула ды жмурыцца ў дрымоце,
І ўсё чакае сонца. Дзесьці на балоце
Клякоча бусел і, абмокшыя, ўсё ранне
Працяжна каркаюць вароны у тумане,

Абрыдшыя сялянам, бо варожаць слоту.
Сяляне ўжо даўно ўзяліся за работу.
Пачуўся жнеяў спеў працяглы і маркотны,
Так сумны, аднастайны, як дзень гэты слотны,
І тым сумнейшы, што ў імгле без рэха тоне.
Сярпы хрусцяць у спелым збожжы на загоне,
І рад касцоў ідзе атаваю ўздоўж гоней,
Насвістваючы песню. А ў канцы пакосаў
Спыняюцца ўсе, менцяць або клеплюць косы.
Людзей не ўбачыш, толькі чуецца ў тумане
Сярпоў, кос, галасоў сугучнае іграннe.

## *З кнігі восьмай*

У полі пачынаецца канцэрт вялікі:
Вось строіць інструменты кончылі музыкі,
Азваўся тройчы драч у лузе, і тым часам
Яму ўтарыць пачаў брыдун з балота басам,
А бекасы, угору вырваўшыся, ўюцца
І бэкаюць, як быццам аб бубенец б'юцца.

Ў фінал мушыных шумаў,
птушак крыкаў, з далі
Ставы два хорам здвоеным вось заспявалі,
Нібы каўказскія заклятыя азёры,
Што ўдзень маўчаць, а ўноч вядуць
перагаворы.
Адзін стаў, што быў ясны, з берагам пясчаным,
Блакітнай груддзю выдаў тон усхваляваны,
Другі, што з дном быў цёмным і абліччам
мутным,
Яму адказваў крыкам жаласным, магутным.
У абудвух ставах спявалі жабы зважна,
То сола перарывіста, то ў хор працяжна.
Адзін фарцісіма [1] пяе, другі сціхае,
Той быццам чымсь абураны, другі ўздыхае.
Так размаўлялі два ставы з сабой праз поле,
Як быццам гарфы дзве чароўныя Эола [2].

---

[1] *Фарцісіма* — вельмі моцна, наймацней.
[2] *Эол* — бог вятроў.

А змрок гусцеў, і толькі недзе каля рэчкі
Ў лазе блішчэлі вочы воўчыя, як свечкі;
Далей на краявіда сцесненым палетку
Кастры начлежнікаў там-сям блішчэлі зрэдку.

## *З кнігі дзесятай*

Раннім ранкам аблокі былі раз'яднаны,
Нібы чорныя птахі ныралі ў туманы
І збіраліся ў стаю. Калі ж сонца ўзбегла
На палудзень, іх стая ўсё неба аблегла
Хмарай чорнаю. Вецер трапаў яе хіжа,
І яна ўсё гусцела, звісала ўсё ніжай,
Аж пакуль яе край, ад нябёс адарваны,
Да зямлі не дастаў, ушыркі распрастаны;
Надулася, як ветразь, вятры ўсе ўвабрала,
Злая, чорная з поўдня на захад імчала.

І была цішыня, перш чым бура даспела,
Скрозь — маўкліва і глуха, паветра знямела;
Жыта ў полі, што вось-вось шумела, лілося
Марской хваляй і ўгору узнятым калоссем
Патрасала — цяпер скрозь стаіць нерухома
І ў нябёсы глядзіць, шчэць падняўшы
саломы.

І зялёныя вербы ў шляхах, і таполі,
Што, нібы пры адкрытым сабраўшыся доле,
Апускалі, ўздымалі дрыготна рамёны
І чалом білі, срэбныя хілячы кроны, —
Анямелі, застылі з выразам жалобы,
Як выбіткі з камення Сыпільскай Ніобы.
Адна толькі асіна дрыжыць лісцем сівым.

Быдла, звыклае з пашы вяртацца ляніва,
Тлумна прэцца цяпер, пастухоў не чакае,
Пакідае спажытак, дамоў уцякае:
Капытамі бугай б'е зямлю, рые рогам
І рыкае, ў рыканні ж і страх і трывога;
У нябёсы карова, уставіўшы вока,
Раздзьмухаючы храпы, ўздыхае глыбока;
А вяпрук замарудзіў дзесь ззаду і прагна
Збажыны сноп псуе і ў запас яго цягне.
Птаства лес прыхаваў і травіца густая,
І адно варання неўгамонная стая
Пахаджае ля става сабе важным крокам,
Вокам чорным не дзівіцца чорным аблокам
І, расставіўшы крылы, разявіўшы дзюбы,
Першых кропляў чакае дажджу,
шго ёй любы,
Але й стая спалохана подыхам буры —
Уцякае, падобная воблакам хмурым;
І апошняя птушка над сціхлай зямлёю —
Працяла хмару ластаўка чорнай стралою
І упала як куля . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
А зямля шчэ на захадзе
ў сонечным ззянні
Скрозь ляжала ў жаўтава-чырвонае цьмяні;
Хмара ж з ценю ўжо сетку пляла і ляцела
Сонцу ўслед,
быццам вылавіць промень хацела,
Быццам мела над-захад злавіць само сонца.
А віхры ўжо свісталі над долам бясконца
І ўжо неслі з сабой
безліч кропляў срабрыстых,
Нібы градзіны, гэткіх буйных і зярністых;

А пасля, развінуўшыся ў небе і доле,
З свістам, рэвам,
выццём закружыліся ў коле;
Узняліся слупом, агалілі дно става,
Сіганулі ў лугі — лозы нішчыць і травы:
Лоз галінкі ляцяць, травы, як на пакосе,
Нібы выдраў хто жменяй на вецер валоссе;
Пасшыбаны снапы ў полі...
Дзьмуць вятры, выюць,
На раллю апусціўшыся, нішчаць і рыюць,
Глебу ўзносяць угору,
каб шлях адкрыць новай,
Шчэ мацнейшай,
страшнейшай віхуры чарговай.
А яна — пірамідай рухомаю точыць
І, ўхапіўшы пяску, — сыпле зоркам у вочы;
Раз у раз ушыркі раздаецца віхура
І, вялізнай трубой падвываючы буры,
Са струменнем вады, у хаосе куравым, —
Дзе салома і лісце, галінкі і травы, —
На лясы падалася і ў нетрах дзесь пушчы
Зарыкала мядзведзем.
А дождж ужо плюшчыць,
Нібы з сіта ліе.
Глушаць грому раскаты,
Кроплі разам зліліся, як струны напяты,
То шнурамі злучаюць нябёсы з зямлёю,
То як з вёдраў усё заліваюць вадою.
Зніклі раптам у цемры зямля і нябёсы,
Гэта цемрыва ночы цямнейшым здалося.
Далягляд раскрываўся часамі бясконцы,
Анёл буры, падобны бязмернаму сонцу,
Твар паказваў і чэз дзесьці за пеляною —

Дзверы хмар з перуном зачыняў за сабою.
Бура зноўку дужэла — грымоты, навала...
Змрокі гэткія, быццам рука іх кранала.
Перасціхне зноў дождж,
зноў маланкаю бліснe,
Зноў абудзіцца гром і вадою зноў хлісне,
Але раптам спакой, цішыня. Толькі дрэва
Каля дому шуміць ды цуркоча залева.

## З эпілога

О, мне дажыць бы да гэткай уцехі,
Каб мае трапілі кнігі пад стрэхі,
Каб за кудзеляй сялянкі прысеўшы,
Песні любімыя даўнія спеўшы
Пра сіраціну-красуню, якая
Вечарам гнала птушыную стаю,
І пра дзяўчыну, што скрыпку любіла
Ды за ігрою свой статак згубіла, —
Каб і мае ўзялі кнігі сялянкі,
Простыя кнігі, як іх калыханкі.

# ЗМЕСТ

5 Замест прадмовы. *А. Мальдзіс.*

I

9 Мешка, князь Навагрудка.
*Пераклад Ул. Караткевіча.*

25 Бульба (фрагмент). *Пераклад Хв. Жычкі.*

29 Да Чачота. *Пераклад Хв. Жычкі.*

30 Да Нёмана. *Пераклад Ю. Гаўрука.*

32 Песня філарэтаў. *Пераклад А. Вялюгіна.*

35 З «Гражыны». *Пераклад С. Дзяргая.*

II

39 Рамантычнасць. *Пераклад Н. Тарас.*

42 Свіцязь. *Пераклад А. Бялевіча.*

51 Свіцязянка. *Пераклад А. Зарыцкага.*

58 Рыбка. *Пераклад Р. Барадуліна.*

65 Курганок Марылі. *Пераклад Ю. Гаўрука.*

70 Сябрам. *Пераклад А. Зарыцкага.*

72 Люблю я. *Пераклад А. Зарыцкага.*

78 Пані Твардоўская. *Пераклад К. Цітова.*

84 Тукай... *Пераклад Н. Тарас.*

95 Лілеі. *Пераклад М. Танка.*
108 Дудар. *Пераклад Ю. Гаўрука.*
117 Паніч і дзяўчына. *Пераклад Я. Коласа.*
121 З другой часткі «Дзядаў». *Пераклад Я. Сіпакова.*

## III

133 Да М.*** (Марылі). *Пераклад М. Танка.*
135 Няўпэўненасць. *Пераклад Н. Тарас.*
137 Сон. *Пераклад Я. Семяжона.*
139 Дзень добры. *Пераклад Ю. Гаўрука.*
139 Дабранач. *Пераклад Ю. Гаўрука.*
140 Добры вечар. *Пераклад Ю. Гаўрука.*

## IV

143 Пілігрым. *Пераклад М. Аўрамчыка.*
144 Сябры. *Пераклад К. Крапівы.*
146 З «Конрада Валенрода». Песня. *Пераклад М. Аўрамчыка.*
149 Уцёкі. *Пераклад М. Аўрамчыка.*
157 Exegi munimentum aere perennius... *Пераклад Р. Барадуліна.*
158 Калі мой труп. *Пераклад А. Зарыцкага.*

## V

161 Пан Тадэвуш (урыўкі з паэмы).
161 З кнігі першай. *Пераклад П. Бітэля.*
163 З кнігі другой. *Пераклад П. Бітэля.*

166 З кнігі трэцяй. *Пераклад П. Бітэля.*
168 З кнігі чацвёртай. *Пераклад М. Танка.*
172 З кнігі шостай. *Пераклад П. Бітэля.*
174 З кнігі восьмай. *Пераклад П. Бітэля.*
176 З кнігі дзесятай. *Пераклад С. Дзяргая.*
180 З эпілога. *Пераклад М. Танка.*

**Міцкевіч А.**

**«Зямля навагрудская, краю мой родны...» Мінск, «Беларусь», 1968.**

**184 с. 6000 экз. 76 к.**

У зборнік выбраных твораў выдатнага польскага паэта ўключаны санеты, балады, вершы і ўрыўкі з паэм, у якіх апяваецца прыгажосць беларускай зямлі.

7-4-3 / 209-68 **М 70**

**И (Пол)**

На белорусском языке

*Адам Мицкевич*

**«Земля новогрудская, край мой родной...»**

Издательство «Беларусь». Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар Р. Барадулін
Мастацкі рэдактар Л. Прагін
Тэхнічны рэдактар Т. Сокал
Карэктар А. Міронава

---

Здадзена ў набор 3/IX 1968 г. Падп. да друку 23/I 1969 г. Тыраж 6000 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера мел. Ум. друк. арк. 6,4. Уч.-выд. арк. 6,07. Зак. 1260. Цана 76 кап.

---

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.